PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 51 (2014) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 18 СНЕЖНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## ...а для душы — музыка!

Ёсць людзі, якія пакідаюць трывалы след у нашай культуры. **СЯРГЕЙ ЛУКАШУК** — не толькі дырэктар Бельскага дома культуры, але і арганізатар культурнага жыцця ў Бельску, ды і наогул на Беласточчыне. Удзельнік і рэжысёр фінальных аглядаў беларускай песні ў Беластоку. Шматгадовы кіраўнік і дырыжор бельскага мастацкага калектыву „Васілёчкі" і многіх дзіцячых калектываў. Ад 1990 года кіруе калектывам „Маланка".

**З СЯРГЕЕМ ЛУКАШУКОМ** гутарыць **АДА ЧАЧУГА.**

*— Святкаванне 30-годдзя „Васілёчкаў" было, Сяргей, у вялікай меры і тваім святам?!*

— З „Васілёчкамі" звязаўся я ад 1967 года, калі вучыў у Галадах. Я быў там дырэктарам школы і вёў музычнае выхаванне. Прыехаў да мяне Васіль Антыпюк, міліцыянт. Я перапужаўся не на жарты: што гэта, арыштаваць мяне прыехалі? За што? А ён кажа: чулі мы, што вы іграеце на акардэоне, а нам у хоры не хапае акампаніятара. Я засумняваўся, але чалавек у міліцыйным мундзіры заахвочваў: хорам кіруе вельмі добры дырыжор — айцец Юры Шурбак, дасце рады, ды і ён вам дапаможа. Ну, і я згадзіўся. На бліжэйшую рэпетыцыю я паехаў з Галадоў на сваім матацыкле. Рэпетыцыі тады адбываліся ў халоднай ратушы. Але ўжо праз тыдзень мы паехалі на мой першы канцэрт.



*Сяргей Лукашук са сваімі сяброўкамі-самадзейніцамі.*

*— Згадзіўся і ... застаўся з „Васілёчкамі" больш дваццаці гадоў.*

— Да сямідзесятага года я быў толькі акампаніятарам. А тады стаў дырыжорам. Мяне намаўлялі, а я вельмі баяўся. Вырашыў спрабаваць. Развучыў з хорам першую песню. Распісаў яе на галасы — сапрана, альт, тэнар, бас. А пасля ўвесь хор заспяваў разам. І я ўбачыў плёны сваёй працы. Гэты момант я так перажыў, што ў мяне ад радасці апусціліся рукі...

*— Здаецца, тады ты ўжо даязджаў на рэпетыцыі хору з Беластока?*

— Так, ад верасня сямідзесятага года я два гады працаваў кіраўніком культурна-асветнага аддзела Беларускага таварыства. У Бельску начаваў у сваякоў Раеўскіх. Раніцай вяртаўся на працу ў Беласток.

*— А яшчэ ж трэба было ездзіць і ў Варшаву?*

— У семдзесят першым я паступіў у Музычную акадэмію імя Шапэна ў Варшаве (тады яшчэ была яна Вышэйшай музычнай школай) і пяць гадоў вучыўся там завочна на аддзяленні музычнага выхавання.

*— Ці дапамог табе ў вучобе набыты вопыт у галіне беларускай песні?*

— О-о! Мой выкладчык па класу дырыжыравання Рышард Зімак, беластачанін па паходжанню, калі пачуў па радыё перадачу „Аматарскія калектывы перад мікрафонам" і даведаўся, што я кірую беларускім хорам, запрапанаваў, каб я наш рэпертуар прывёз на заняткі. Памятаю, узяў я тады песню „Куды ляціш, зязюленька?". Вельмі дапамог мне тады мой настаўнік у інтэрпрэтацыі гэтай песні, ды і іншых таксама.

*— Ад семдзесят пятага, калі ты стаў дырэктарам Бельскага дома культуры, палягчэла?*

— Вядома, усё было на месцы. Тут жа праводзіліся і рэпетыцыі. Але ў Бельску я ўжо быў раней, бо два гады да гэтага працаваў у бельскай „тройцы".

*— У той час, калі ты кіраваў „Васілёчкамі", наступіў выразны росквіт калектыву...*

— Калектыў з гадамі сталеў. Я ж кіраваў ім цэлых дваццаць гадоў. За тыя гады мы далі каля 600 канцэртаў. Вядома, найбольш выступалі на Бельшчыне, Беласточчыне, але ездзілі таксама на турнэ па Польшчы ў Быдгаскае, Пазнанскае, Плоцкае ваяводствы. Некалькі разоў былі ў Варшаве, на фестывалі ўкраінскай культуры ў Сопаце выступалі як прадстаўнікі беларусаў.

*— Калі вы пачалі супрацоўнічаць з Беларуссю?*

— Першы раз мы паехалі ў Гародню разам з „Падляшскімі зялюлямі". Было гэта ў восемдзесят пятым. Ад таго часу пастаянна абменьваліся калектывамі: мы выступалі на Беларусі, а адтуль — з розных мясцовасцей — прыязджалі да нас. Мінская тэлестудыя запісала наш саракамінутны канцэрт.

*— Многія лічаць, што крызіс, які наступіў у „Васілёчках" у канцы восемдзесят дзевятага, неўзабаве пасля таго, як адсвяткавалі 25-годдзе калектыву, быў звязаны з тваім адыходам.*

— Хутчэй мой адыход быў звязаны з узнікшым крызісам і знеахвочаннем членаў калектыву. Наступілі новыя часы, у мяне былі новыя канцэпцыі, з якімі не ўсе згаджаліся. Зрэшты, так і павінна быць, што кіраўніцтва змяняецца з гадамі. Прыйшлі маладыя сілы, кіраваць „Васілёчкамі" ўзялася

*Працяг на стар. 8*

## Плёныня нарады
### даследчыкаў пагранічча

У днях 25—27 лістапада г.г. у Супраслі адбылася канферэнцыя „Усходняе пагранічча ў сацыялагічнай перспектыве". Арганізавала канферэнцыю Кафедра сацыялогіі Інстытута філасофіі і сацыялогіі Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку пад кіраўніцтвам вядомага даследчыка праф. Андрэя Садоўскага.

Назва канферэнцыі не аддае поўнасцю яе вельмі абшырнага зместу. Удзельнічалі ў ёй не толькі сацыёлагі, але і этнографы, педагогі, псіхолагі, дэмографы. Усіх спецыяльнасцяў проста не пералічыць, падобна як назваць хаця б тэмы дакладаў, якіх было больш за трыццаць. Даклады датычылі не толькі ўсходняга пагранічча, але таксама праблемаў этнічна-рэлігійнага сумежжа іншых абшараў — не толькі Польшчы, але і іншых краін. Удзельнікі нарадаў знаёміліся, напрыклад, з праблемамі італьянска-аўстрыйска-славенскага пагранічча або канадскага (пакуль што) Квебека.

Вельмі моцная была рэпрэзентацыя беларускіх навукоўцаў, перш за ўсё з Брэста, але і з Мінска. Нельга не заўважыць, што прафесійны ўзровень беларускіх даследчыкаў прыкметна расце і яны з'яўляюцца ўжо роўным партнёрам для сваіх калег з іншых краін. Час, калі Беларусь прадстаўлялі ўсюды тыя самыя людзі, якія гаварылі заўжды тое самае, адышоў у мінулае.

Тэмаў да размоваў хапала аж надта, пачынаючы з праблемы, што такое наогул пагранічча. Ім можна лічыць, напрыклад, самую Беласточчыну або ўсю Беларусь, бо на яе тэрыторыі выступаюць не толькі розныя нацыі і рэлігіі, але сустракаюцца дзве вялікія цывілізацыі — візантыйская і рымская.

Ад роздумаў на ўзроўні цывілізацыі можна перайсці да аналізу свядомасці жыхароў нейкай забітай вёскі. Цікава было даведацца, што для вяскоўцаў пад Лідай паляк гэта надалей значыць толькі і выключна католік. Для іх немец гэта таксама паляк. Здзіўляюцца яны толькі, што так кепска гэты немец трактаваў свой польскі (г.зн. каталіцкі) народ у час вайны.

Паколькі ў рамках артыкула немагчыма аднесціся да ўсіх праблемаў, якія былі закранутыя на канферэнцыі, а матэрыялы будуць неўзабаве выдадзены, я папрасіў прафесара Садоўскага коратка падвесці вынікі нарадаў.

Прафесар Садоўскі выказаў задавальненне, што ўдалося яму прыцягнуць да супольных нарадаў навукоўцаў з розных краін, дзякуючы чаму аказалася, што праблемы ўсходняга пагранічча не з'яўляюцца ўласна ягонымі. Па-другое, стала відавочным, што нельга глядзець на наш рэгіён як на нейкую перыферыю. Свет поўніцца перыферыямі і існаванне нейкага цэнтра з'яўляецца нечым вельмі адносным. Па-трэцяе, канферэнцыя даказала, што ў Беластоку можа існаваць цэнтр даследаванняў, здольны арганізаваць супрацоўніцтва ў міжнародным маштабе.

Ад сябе дадам, што ў канферэнцыі прымалі ўдзел, апрача навукоўцаў з Польшчы і Беларусі, таксама госці з Італіі і Канады. Нарады ішлі на польскай, беларускай, рускай, англійскай і французскай мовах. Гэта не перашкаджала вучоным паразумецца.

У прыватнасці цешыць польска-беларускі дыялог, у якім мэтай з'яўляецца дасягненне ісціны, а не даказанне камусьці чаго-небудзь. Вучоныя, вядома, не вырашаць набалелых праблемаў, але прынамсі называюць іх сваімі іменамі. Добра было б, каб іхняму голасу больш уважліва прыслухоўваліся палітыкі і наогул людзі, у чыіх руках лёс жыхароў пагранічча.

**Алег Латышонак**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Камунізм зварушыў у Польшчы хама. Калісьці хам ня быў у модзе, пазьней ён стаў модны, цяпер ён дыктуе моду. Хам — гэта прадукт рэвалюцыі, гвалтоўных грамадзкіх, культурных, палітычных, эканамічных пераўтварэньняў. Памеры хама — гэта мера гвалтоўнасьці, але і мера посьпеху перамен, аднак ні ў якім выпадку — ня мера вартасьці асобных людзей, падверужаных пераменам. Пасьляваенная хама спарадзіла так званая дыктатура пралетарыяту і ідэя вядучай ролі рабочa-сялянскае клясы. Вялізныя, мільёнными масы людзей былі вылучаныя ў сэнсе палітычным, грамадзкім, глябальна цывілізацыйным. Яны былі вырваныя з сваіх асяродкаў і перанесеныя на новыя месцы. Ніхто больш ня быў у сябе і сярод сваіх. Кожны адчуваў сябе грамадзкім „набыткам". Чым больш ён працаваў на свой новы вышэйшы статус, тым бліжэй быў мэты, чым больш яе цаніў, тым больш усьведамляў, колькі яшчэ мусіць зрабіць, навучыцца. Ён ніколі не прызнаваўся ў сваім расчараваньні, сполаху ці няпэўнасьці. Штодня ён бываў страшэнным хамам — чалавекам, які за нахабствам хавае свае комплексы і недахопы. У Польшчы людзі ня ўмелі — і цяпер слаба ўмеюць — разумецца паміж сабою, таму што кожны перад кожным граў таго, кім яшчэ ня быў, але спадзяваўся быць неўзабаве.*

*(Наша Ніва, н-р 7)*

Добры знак; беларуская прэса пачала займацца прыкметамі суседніх народаў. Ведаць сваіх суседзяў — гэта адзін з варункаў уласнага існавання.

***

*Przemoc zaczęła być modna. Skin stał się bohaterem, o nazistach zaczęły powstawać książki, w sklepach sprzedaje się faszystowskie gadżety, a niektóre artykuły w gazetach przypominają poradnik młodego hitlerowca. Skini to dobrzy Polacy, czyści, zatrudnieni jako bramkarze przez polityków prawicy i jako ochrona na koncertach. Krótkowłosi skini chcą bronić swoiście pojmowanej tradycji narodowej albo odwołują się do racji „prostego człowieka". Przemoc, którą stosują wobec „obcych", jest osobliwą formą kontaktu ze światem zewnętrznym, który postrzega się jako świat wrogi, „nie nasz".*

*(Polityka, nr 48)*

Сённяшняя рэчаіснасць надта ж напамінае канец трыццатых гадоў.

***

*Tadeusz Gawin to kolejna, kontrowersyjna postać z Grodna. Przedtem Gawin nie był znany, ale kiedy w 1990 r. powstał Związek Polaków na Białorusi, wystartował niczym czarny koń, kierowany ręką tajemniczego furmana i został przewodniczącym. Jak zwykle miałem swoje zdanie, że to musi być jakiś agent KGB, —* піша Казё Семяняка.

*(Kurier Podlaski, nr 233)*

Семяняка, які ў 1990 г. выявіў свету, што ўсе беларусы Беласточчыны — гэта камуністы або фашысты („Pod różnymi krzyżami"), сёння зрабіў дэканспірацыю кіраўніцтва Саюза палякаў у Беларусі, з якім шмат часу супрацоўнічаў. Паводле Семяня́кі Саюз — гэта нішто іншае як агентура КДБ.

***

*На першы погляд, што можа быць дрэннага ў вершы „Кто ты естэсь?", які прапануецца настаўнікам польскай мовы ў школах у Беларусі. Толькі ўдумайцеся ў тэкст гэтага верша: „Хто ты ёсць? Паляк малы, Які герб твой? Арол белы!" Для грамадзян Беларусі любой нацыянальнасьці ў нашай краіне ёсць толькі адзін герб — Дзяржаўны Герб Рэспублікі Беларусь — „Пагоня"! Таму навучанне польскай мове павінна весціся толькі па падручніках зацверджаных Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, а не прывезеных з Польшчы, у якіх Беларусь выступае як „польске крэсы"!*

*(Настаўніцкая газета, 12.11.1994)*

***

*Polska policja poszukuje 280 morderców. Wśród nich mieści się 80-osobowa grupa płatnych zabójców. Specjaliści z Komendy Głównej uważają, że popyt na ich usługi stale rośnie. Polscy profesjonalni zabójcy poświęcają wiele uwagi na ćwiczenia fizyczne, ale także na przesiadywanie w luksusowych lokalach, chcą być podziwiani i akceptowani.*

*(Wprost, nr 48)*

***

*Watykan może chcieć nawracać Rosję na katolicyzm. Proszę bardzo, tylko dlaczego polskimi rękami? Jeżeli to robią polscy biskupi tak, jak teraz to czynią, to nas niepotrzebnie antagonizują z Kościołem prawosławnym i ze społeczeństwem rosyjskim. Nie miałbym nic przeciwko temu, gdyby to robili biskupi włoscy, hiszpańscy czy inni. To się odbija także na polityce wobec Białorusi, —* сказаў Ежы Гедройць.

*(Polityka, nr 48)*

***

*Europa potrzebuje Chrystusa i my, Polacy, możemy to jej przynieść.*

*(Wprost, nr 48)*

Добра, хай так будзе.

***

*Вельмі ўжо да твару Алесю Рыгоравічу Лукашэнку звычайнае мексіканскае самбрэра. Надта-ж зручная рэч. І ў сьпёку заўсёды цень знойдзеш і ў дождж не змокнеш. Насіў бы Алесь Рыгоравіч свае самбрэра, але лёс закінуў яго ў сталіцу. Паспрабаваў Лукашэнка езьдзіць у грамадзкім транспарце, бо хацеў захаваць імідж простага мексіканскага селяніна. Але не ты ўваб'ешся ў лацінаамерыканскай шапцы ў менскі тралейбус?! І давялося Алесю Рыгоравічу павесіць сваё самбрэра на цьвік. Але не траціць надзеі Лукашэнка, што прыйдзе час, калі будзе ў яго машына з адкрытым верхам.*

*(Наша Ніва, н-р 7)*

Сімпатычны і вясёлы гэты Алеська.

***

*Мы марнеем, мы чэзнем, зьнікаем,*
*Мы прышэсця другога чакаем.*
*Як нам быць без дубіны ахоўнай,*
*Як нам жыць без папругі вярхоўнай.*

*(Літаратура і мастацтва, н-р 45)*

Вось пытанне!!!

## З мінулага тыдня

**Кіраўнікі 52 краін НБСЕ** аднадушна ўхвалілі ў Будапешце тэкст канчатковай дэкларацыі, прысвечаный павелічэнню здольнасці НБСЕ дзеля забеспячэння спакою на Старым кантыненце. Дэкларацыя, якая называецца „У напрамку сапраўднага партнёрства ў новай эры", інфармуе аб змене назвы НБСЕ на АБСЕ — Арганізацыя па Бяспецы і Супрацоўніцтву ў Еўропе.

**Віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела** сустрэўся ў Беластоку з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый беларусаў, падляшскіх украінцаў, татараў і цыганоў. Тэмай гутаркі былі фінансавыя праблемы, а ў прыватнасці памер дзяржаўных датацый для меншасных арганізацый, прызначаных на культурную і выдавецкую дзейнасць. Прысутныя пазнаёміліся з новым дырэктарам Бюро па справах нацыянальных меншасцей у Міністэрстве **Ежы Бісякам**.

**Некалькі польскіх арганізацый** і асяроддзяў на Віленшчыне патрабуюць адкліканьня з пасады пасла РП у Літве **Яна Відацкага**. Паводле самога пасла, „патрабаванне — чарговая атака людзей, якія не хочуць нармалізацыі польска-літоўскіх адносін".

**Канвой з гуманітарнай дапамогай** для Беларусі, арганізаваны Фондам „Equi-Libre" і Таварыствам салідарнай помачы, адправіўся з Кракава. Транспарт лякарстваў, харчовых прадуктаў і вопраткі трапіў у дзіцячыя дамы, шпіталі і парафіі Гродна, Шчучына, Ліды, Баранавіч і Наваградка. Падчас трохдзённай акцыі ў Кракаве сабрана звыш 70 тон дароў вартасцю ў 2,5 млрд. злотых.

**Галоўнае праўленне БГКТ** вінаватае Упраўе горада Беластока 600 млн. зл. за арэнду будынка на вул. Варшаўскай. Да прашэння БГКТ аб пагашэнні задоўжанасці Камісія культуры, асветы і сацыяльнай аховы Гарадской рады пасталася адмоўна.

Паводле заявы пасла **Артура Смулкі**, неўзабаве будзе прынята рашэнне ў справе стварэння публічнага **тэлецэнтра ў Беластоку**. Гэтую ідэю моцна падтрымоўвае сеймавая Камісія па справах нацыянальных меншасцяў. Рэгіянальны тэлецэнтр у Беластоку стварыў бы беларускаму асяроддзю магчымасць прэзэнтаваць інфармацыйныя і культурныя перадачы. Калі ўсё пойдзе па плану, тэлецэнтр пачне дзейнасць у маі-чэрвені 1995 года.

**Політэхнічны інстытут у Беластоку** адзначаў юбілей 45-годдзя з дня заснавання. З гэтай нагоды быў устаноўлены бюст і мемарыяльная дошка ў гонар дацэнта **Марыяна Паняятоўскага**, які ў 1956-1967 гадах быў рэктарам Вышэйшай інжынерскай школы — папярэдніцы сённяшняй Палітэхнікі.

**III Дэкламатарскі конкурс** для палякаў з-за ўсходняй мяжы **„Крэсы'94"** адбыўся ў Беластоку. Удзельнічалі ў ім 27 маладых дэкламатараў з Літвы, Беларусі, Украіны, Расеі, Латвіі і Чэхіі.

**Прадстаўніцтва польска-вялікабрытанскай Праграмы развіцця** прадпрымальніцтва ў Гайнаўцы пачне сваю дзейнасць з пачаткам новага года. Яго мэта — падтрымка малых і сярэдніх прыватных фірм, у якіх працуе ад 5 да 100 чалавек.

З'явіўся шанс дакончыць пабудову **шпіталя ў Гайнаўцы**, якая ўжо вядзецца дзесяць гадоў. У праекце дзяржаўнага бюджэту на наступны год міністр фінансаў адвёў на гэтую мэту 20 млрд. зл. У 1996 годзе на гайнаўскі шпіталь плануецца прызначыць 104 млрд. зл., што дазволіць завяршыць пабудову бальніцы на 270 ложак.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

> Як меншасці размаўлялі з дзяржаўнымі ўладамі.

> Ада Чачуга ў пошуках "хлопцаў-рыбалоўцаў".

> Дырэктар школы і старшыня Гміннай рады ў Нараўцы.

> Ікона ў паэзіі Веслава Шыманьскага.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Непавага да закона

Канстытуцыйны Суд прыняў заяву, у якой гаворыцца, што ён стаіць па-за палітыкай і рашэнне аб незаконнасці прэзідэнцкага ўказа аб скасаванні саветаў пярвічнага ўзроўню не дало падставы для таго, каб абвінавачваць яго ў палітычных прыхільнасцях. У гэтым рашэнні, якое атрымала шырокі грамадскі розгалас, выказана прававая пазіцыя суддзяў. Пры разглядзе справы суд кіраваўся толькі канстытуцыяй і не дзейнічаў на ўгоду каму б там не было. На думку Суда, цяперашняя сітуацыя ў рэспубліцы ў значнай меры выклікана тым, што павага да закону яшчэ не стала нормай паводзін у грамадстве.

### МВФ чакае рэформаў

Задавальненне ад зробленай прэзідэнтам Беларусі заявы аб эканамічнай палітыцы выказаў пастаянны прадстаўнік Міжнароднага валютнага фонду ў Беларусі. Ён адзначыў, што МВФ працягвае весці перагаворы з беларускім урадам па пытанню выканання дадзеных ім яшчэ ў верасні пэўных абавязацельстваў па праграме Фонду. Як толькі ўрад будзе гатовы, згодна з нармальнай працэдурай Савет дырэктараў МВФ пачне абмеркаванне запыту Беларусі на крэдыт, а затым будзе арганізавана сустрэча краін-донараў.

### Прафсаюзы адстойваюць цэны

За ростам цэн могуць успыхнуць сацыяльныя канфлікты, — мяркуе Федэрацыя прафсаюзаў рэспублікі. Прэзідыўм ФПБ прыняў заяву ў адрас прэзідэнта РБ, у якой заклікае кіраўніка дзяржавы не дапусціць да аб'яднання грамадства. Прафсаюзы занепакоены выказваннямі прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра аб неабходнасці павышэння цэн на асноўныя віды хлеба, малака, тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі, настойваюць на адэкватных мерах абароны насельніцтва. Федэрацыя прафсаюзаў заяўляе, што яна гатова з удзелам зацікаўленых бакоў распрацаваць механізм стрымлівання рознічных цэн і тарыфаў.

### Супраць беларускай мове

Ля будынка Менскага гарвыканкама, нягледзячы на халодны вецер з'явіліся каля двух дзесяткаў пікетчыкаў з плакатамі. Гэта былі прадстаўнікі стваравемага рэспубліканскага камітэта „За свабодны выбар мовы навучання". У камітэт аб'ядноўваюць бацькі вучняў шэрагу школ Менска, Брэста, Крычава, Калінкавіч, Бешанковічаў, пасёлка Бараўляны занепакоеныя абмежаваннямі ў выбары мовы навучання ў школах рэспублікі. Надпісы на плакатах паведамлялі, што ў 154 беларускамоўных школах Менска ў навучальных праграмах першых класаў увогуле няма ўрокаў рускай мовы, а па ўсёй рэспубліцы засталося толькі 5% рускамоўных школ.

### Ушанаванне суайчынніка

Памяць пра беларускага вучонага і асветніка Ігната Дамейку, які з 1823 па 1831 г. жыў у маёнтку Заполле цяперашняга Лідскага раёна, вырашылі ўвекавечыць мясцовыя ўлады. Яго імем будзе названа мясцовая сярэдняя школа, у якой прадугледжана адкрыць мемарыяльны музей вучонага.

### Узнагароды для літаратараў

Адразу тры вядомыя літаратары — Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін і Васіль Якавенка — удастоены міжнароднай прэміяй імя Хрыстыяфа Нафсеяна ў галіне літаратуры, культуры і навукі. Яе заснавала створаня больш за год таму Міжнародная армянская асамблея, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Маскве. Прэмія будзе ўручацца ўпершыню і прысуджаецца яна за асобыя адносіны да Арменіі.

### З візітам у гродзенцаў.

Вядомы беларускі пісьменнік з Беластока Сакрат Яновіч з жонкай Тацянай наведаў Гродна. Ён выступіў двойчы перад студэнтамі Універсітэта імя Янкі Купалы — на Гістарычным факультэце і на Факультэце філалогіі і культуры.

### Пачаткі фермерства

Самая паўночная вобласць рэспублікі па-ранейшаму ўтрымлівае лідэрства па колькасці створаных новых сялянскіх гаспадарак. Толькі сёлета на Віцебшчыне амаль семдзесят фермераў афармілі дакументы на права валодання зямельнымі ўчасткамі. Аднакасова з гэтым працягваецца і натуральны адбор. Трыццаць шэсць фермерскіх гаспадарак за год заявілі сваё банкруцтва.

### Атрутнае паліва

Сёння ў Беларусі сабралася некалькі тысяч тон ракетнага акісляльніку — даволі агрэсіўнай сумесі кіслот. Тэрмін службы цыстэрнаў, у якіх ён захоўваецца, даўно ўжо скончыўся і ў любы момант могуць яны пацячы. Неабходная затым хуткая ўтылізацыя гэтай атруты. Ваенныя апрацавалі праект перапрацоўкі меланжу на комплекснае ўгнаенне, якое ўтрымлівае азот, кальцый і магній, ды задумалі пабудаваць завод па перапрацоўцы небяспечнага кампанента ракетнага паліва пад Оршай. Непасрэдныя суседзі планаванага перапрацоўчага комплексу — жыхары пасёлка Балбасава не згаджаюцца на яго пабудову і працягваюць пратэстацыйныя акцыі.

# АБ'ЯВА

Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь і Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" арганізуюць у днях 21—29 студзеня 1995 г. курсы павышэння кваліфікацыі настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры школ замежжа.

Праграма курсаў:

**21.01.95 г.**
Заезд і размяшчэнне

**22.01.95 г.**
10.00 — Экскурсія па г. Мінску
19.00 — Наведванне тэатра імя Я. Купалы

**23.01.95 г.**
9.30—10.00 — Сустрэча з рэктарам універсітэта
10.00—11.00 — Знаёмства з універсітэтам і факультэтам беларускай філалогіі і культуры
11.00—12.30 — Рэфармаванне сістэмы адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь
13.00—15.00 — Абед
16.00 — Наведванне музея Я. Купалы

**24.01.95 г.**
8.30—14.00 — Заняткі згодна з вучэбным планам
14.00—15.30 — Абед
16.00 — Сустрэча з беларускімі пісьменнікамі і вучонымі

**25.01.95 г.**
8.30—14.00 — Заняткі
14.00—15.30 — Абед
16.00 — Экскурсія ў Дзяржаўны мастацкі музей
19.00 — Культпаход у тэатр

**26.01.95 г.**
8.30—14.00 — Заняткі
14.00—15.30 — Абед
16.00 — Наведванне Акадэміі навук і музея Я. Коласа

**27.01.95 г.**
8.30—14.00 — Заняткі
14.00—15.30 — Абед
16.00 — Сустрэча з прадстаўнікамі сродкаў інфармацыі

**28.01.95 г.**
8.30—12.00 — Заняткі
12.00—13.30 — Круглы стол
14.00 — Развітальны абед
16.00 — Экскурсія ў в. Мікалаеўшчына, Нясвіж (з начлегам)

**29.01.95 г.**
Ад'езд настаўнікаў

Заняткі з удзелам выкладчыкаў Кафедры педагогікі, супрацоўнікаў Акадэміі навук, Беларускага дзяржаўнага універсітэта, пісьменнікаў, мастакоў, акцёраў будуць весціся на тэму праблемаў развіцця сучаснай беларускай мовы, гісторыі, культуры, літаратуры і мастацтва Беларусі.

Зацікаўленых просім кантактавацца з:
— Ганнай Сурмач, Беларусь, 220050 Мінск, вул. Рэвалюцыйная 15
або з
— Сяргеем Яцкевічам, Беларусь, 224005 Брэст, вул. Пушкінская 1, кв. 22.

**Ад імя арганізатараў**
**Сяргей Яцкевіч,**
**прафесар Брэсцкага педагагічнага інстытута**

# Беспрацоўе ў гміне

Зараз у Нараўчанскай гміне 330 беспрацоўных. У канцы мінулага 1993 года было іх яшчэ больш — 378. Сярод беспрацоўных найбольш чалавек мае прафесіянальную падрыхтоўку або закончаную толькі пачатковую школу. Не можа знайсці сабе занятку кожны чацвёрты выпускнік сярэдняй школы. Ужо больш чым год беспаспяхова шукае працы 45 асоб, а больш чымсьці два гады — дваццаць.

У першым паўгоддзі 1994 г. у Нараўчанскай гміне выплацілі 897 мільёнаў злотых грашовай дапамогі па беспрацоўю. Ужо дзвесце чалавек не мае права атрымліваць такі „засілак".

Гмінныя ўлады 54 асобы накіравалі да публічных і інтэрвенцыйных работ. Дзесяць чалавек памянялі прафесію. Пасля кароткатэрміновай падрыхтоўкі пачалі яны працаваць апальшчыкамі (качагарамі).

**(яц)**

# Нават грошы дадуць!

У сераду аўтобус перапоўнены. Людзі едуць на базар у Гайнаўку — жанчыны, каб прадаваць яйкі, а мужчыны, каб пацікавіцца цэнамі і нейкую прыладу танней ад „рускіх" купіць.

— Ведаеце, цяпер лепш чым пры „камуне", — кажа сярэдніх гадоў мужчына.

— Чаму? — злосна пытае жанчына.

— Цяпер нават грошы даюць нейкія там фірмы. Вось у нашую вёску прыехалі ўчора бізнесмены ажно з другога канца Польшчы (так прынамсі гаварылі). Пайшлі па хатах да ўсіх пенсіянераў. Кажуць: „Дай нам пяць мільёнаў, а мы табе за тры месяцы дамо пятнаццаць".

— Людкове, гэта ж ашуканцы!

— Не толькі ашуканцы, але і бандыты. Вядома што з такімі?

— Людзі пералякаліся і цяпер сядзяць дома замкнёныя.

— Дзіва што! Такія не жартуюць. Як ім не дасі грошай, то будуць біць. Яны ж думаюць, што пенсіянеры вельмі багатыя і толькі панчоху набіваюць.

— Хто мае сілу і на кагось зямлю перапісаў, а сам яе абрабляе, той мае апрача пенсіі і грошы за малако ды час ад часу за быдла ды свінні.

— Такіх няшмат на вёсках. Большасць мающь няцэлых два мільёны. Усё дарагое, а грошы цяжка дастаюцца.

— Не бойцеся. Я чула, — гаворыць чорнавалосая жанчына, — што тых ашуканцаў ужо арыштавалі. Нехта адважны данёс на паліцыю.

— Доўга яны пасядзяць! Зараз выйдуць. Цяпер хто чалавека заб'е і той доўга не сядзіць, а за такое штось...

— Цяпер людзі зрабіліся хітрыя, мсцівыя і высакамерныя. Не ведаеш, ці дзень пражывеш і ноч спакойна пераначуеш.

— Сёння зважайце на зладзеяў і ашуканцаў, — параіў вадзіцель, калі аўтобус затрымаўся на прыпынку ў Гайнаўцы, — а то не агледзіцеся, калі грошы выцягнуць або дадуць рэшту фальшыўкамі.

— Дзякуем за перасцярогу! — гучна адказалі ўсе.

**Аўрора**

# Свет на паліцах

Бібліятэку ў Нараўцы заснавалі ў 1948 годзе. Знаходзілася яна ў будынку кіно „Лес". Першай кіраўнічкай гміннай бібліятэкі была Лідзія Бяляўская, а наступнай — Ніна Сікорская. Праз пару гадоў бібліятэку перавялі ў прыватны будынак.

У 1973 годзе — як запісана ў хроніцы Нараўкі — з Гміннай публічнай бібліятэкі пазычала кніжкі звыш 1000 чалавек. Мелі яны да выбару 7 тысяч тамоў. Дзейнічалі два філіялы: у Старым Ляўкове і ў Семяноўцы ды бібліятэчныя пункты ў Альхоўцы, Гушчэвіне, Заблотчыне, Леснай, Масеве, Міклашэве, Плянце і ў Скупаве.

Цяпер Гмінная публічная бібліятэка ў Нараўцы ды яе філіялы ў Старым Ляўкове і Семяноўцы маюць 23 тысячы кніг, з таго ў Нараўцы — палавіна ўсяго кніжнага фонду.

У Нараўцы бібліятэку больш-менш сістэматычна наведваюць 416 чытачоў, у тым ліку 233 дарослых ды 183 моладзі і дзяцей. Тут працуюць дзве бібліятэкаршы Анна Стульгіс і Мар'я Урбановіч. У 1991 годзе ў бібліятэку купілі кніжак за васемнаццаць мільёнаў злотых, у 1992 годзе — за дзевяць мільёнаў, у 1993 годзе — за пятнаццаць і сёлета — за васемнаццаць мільёнаў злотых.

У нараўчанскай бібліятэцы ёсць невялічкі збор беларускіх і рускіх кніг — усяго 216 тамоў. Большасць — гэта класіка мастацкай літаратуры. На паліцах чытач знойдзе таксама кніжкі членаў Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Кніжкі на роднай беларускай мове чытае, на жаль, няшмат чалавек.

У бібліятэчнай чытальні ёсць 15 найменняў газет і часопісаў. Бібліятэка зрабіла падпіску на „Ніву". Ніўскія артыкулы пра Нараўчанскую гміну трапляюць у хроніку, якую вядзе Кацярына Бяляўская, працаўніца Гміннага асяродка культуры (ГОК) у Нараўцы.

Сярод дарослых найбольш чытаюць: Хрысціна Харкевіч, Галіна Бароўская, Мар'я Неміровіч, Яніна Стульгіс, Бажэна Болтрык, Хрысціна Семяняка, Мікалай Сахарчук, Віктар Пякарскі, Ян Астаповіч і Ян Каліноўскі.

Пастаяннымі чытачамі сярод моладзі з'яўляюцца: Андрэй Мелеш, Мар'юш Янушкевіч, Альжбета Герасімюк, Каміля Стэфаняк і Эва Сувораў.

І яшчэ прозвішчы дзяцей, якім кніжка — самы лепшы прыяцель. Гэта перш-наперш: Юліта Савіцкая, Кася Маеўская, Уршуля Павільч, Кася Ламашкевіч, Аня Андрушкевіч і Павел Каліноўскі.

**Янка Целушэцкі**

# ГОСЦІ

З інж. Барыславам Рудкоўскім з Бельска-Падляшскага я не бачыўся ўжо недзе з два гады. Ён у „Ніву" перастаў пісаць. Пагневаўся, відаць! Неаднойчы ў мяне паяўляліся думкі: што там у яго чуваць, чым ён цяпер займаецца? І, вось, у адзін з сонечных, хаця надта халодных кастрычніцкіх дзён, інжынер, быццам у адказ на мае роздумы, завітаў у Белавежу. Прыехаў не сам, а з айцом Яўгенам Хадакоўскім, настаяцелем праваслаўнага прыхода ў Ягуштове. Я вельмі ўзрадаваўся! Па інжынеру і старасці не відаць. Ён, як заўсёды, энергічны, дзелавы.

Па дарозе ў Белавежу мае госці заехалі ў Беларускі музей у Гайнаўцы. Інжынер перадаў сп. К. Майсеню сваю чарговую працу — партрэт нашага пісьменніка Васіля Петручука, які выканаў у жніўні 1993 года. І мне нешта прывёз. Я атрымаў два сшыткі ягоных прац п.з. „Тапаграфія дарог, мастоў і гідраграфічнай сеткі". Каштоўны матэрыял! Сп. Барыслаў перадаў яшчэ ў навуковую бібліятэку Белавежскага нацыянальнага парку факсіміле сваёй ранейшай працы „Исследование морфологии кварца из лесных почв...", надрукаваную ў „Минералогическом сборнике Львовского государственного университэта" за 1967 г. Паменшаны адбітак дастаўся і мне.

Пытаю ў сваіх гасцей, што хацелі б пры нагодзе свайго знаходжання ў Белавежы пабачыць. План наведвання крышталізуецца даволі хутка.

Пачынаем з наведання Прыродазнаўчага музея. Айцец Яўген у ім яшчэ не быў. Цікавіцца ўсім падрабязна. У музей гэты збіраецца прыехаць ягоная жонка — настаўніца, зразумела, з вучнямі.

Пакідаем музей і накіроўваемся пад старыя дубы, якія растуць побач. Тут у апошні час выяўлена г.зв. месца моцы. Правяраем прысутнасць узмоцненай энергіі, прыкладваючы свае далоні да кары дуба, на якім некалькі гадоў назад паявілася выява людской галавы. Я адразу вылаўліваю вядомае мне праменяванне. Праз тры-чатыры хвіліны ўдаецца гэта а. Яўгену, затым сп. Барыславу. Апавядаю ім крыху пра тайны гэтага месца. Нашае знаходжанне тут канчаем у момант максімальнага насычання энергіяй сваіх арганізмаў. Інакш наступіла б перагрузка і паявіліся б стомленасць, галавакружэнне. Па дарозе інжынер выказвае свой погляд на выяву людской галавы на дрэве. Яму думаецца, што найхутчэй у такі спосаб напамінае аб сваім існаванні душа чалавека, замучанага атрадам К. Каліноўскага ў час другога польскага паўстання. Самога Каліноўскага мой сябра не лічыць нацыянальным героем. На аўтамабілі пад'язджаем пад галерэю Тамары Тарасевіч. Вітае нас гоман вучнёўскай экскурсіі. Крыху чакаем, пакуль сп. Тамара закончыць вадзіць. Пераглядаем памятную кніжку, ужо амаль запісаную, хаця галерэя існуе ўсяго чатыры месяцы! Айцу Яўгену радасна стала, калі сустрэў некалькі сказаў напісаных рукой самога мітрапаліта Васілія. Але, вось, падыходзіць да нас гаспадыня галерэі і мы пераўтвараемся ў слых і зрок. А пабачыць тут ёсць што. Усё ж маім гасцям найбольш даспадобы мастацтва сп. Тамары. Айцец Яўген проста не можа адарваць вачэй ад трыпціха „Распяцце пушчы". Пачынаем размаўляць на розныя тэмы. Святару напамінаецца час дзяцінства, калі яго бацька ездзіў за працай у Белавежскую пушчу. Закранаем і нацыянальныя пытанні. Айцец Хадакоўскі даказвае важнасць вывучання роднае мовы. Але падыходзіць пара развітацца з гасціннай галерэяй.

Праз 10—15 хвілін мы ўжо ў хаце сп. Георгія Валкавыцкага, былога галоўнага рэдактара „Нівы". Інжынер крыху непацешаны, што не застаў сп. Веры Валкавыцкай — колішняй апякункі нашай карэспандэнцкай сямейкі. Ён хацеў бы зрабіць яе партрэт. Пытае сп. Георгія, ці не знойдзецца нейкі Верын здымак. — На жаль, з такіх рэчаў тут нічога не перахоўваем, — чуем у адказ, — усё ў нас у Беластоку. Пры нагодзе даведваемся, што ў сп. Веры вельмі хворая мачі. Вера менавіта зараз ёю апякуецца. Нейкім чынам наша размова выходзіць на абляпіху, якая з'яўляецца, асабліва яе ягады, дасканалым лякарствам. Потым вязу сваіх гасцей у месца, дзе расце шмат абляпіхі. Яны ломяць па галінцы і мы накіроўваемся ў 495 квартал Белавежскай пушчы, дзе таксама знаходзіцца месца моцы.

Спярша спыняемся ля бетоннай пліты з выціснутым у ёй праваслаўным крыжам, потым накіроўваемся на паляну, дзе ляжаць вялікія камяні. Па чарзе ўваходзім на найвялікшы тут валун. Хаця на двары холадна, ад яго цягне цяплом. Дакладна аглядаем гэты закавулак лесу. Але, што ж, трэба нам вяртацца!

Па дарозе ловіць нас градавая бура. Яна і перашкодзіла мне паказаць магілу белавежцаў пачатку XVIII ст., а таксама курганы. — Прыйдзеца вам яшчэ раз прыехаць у Белавежу, — кажу маім гасцям на развітанне.

**Пётр Байко**



# ЧАЦВЁРТЫ РЫМ

Гісторыя старажытнага Рыма была так багатая, што дзве дзяржавы — Візантыя і Масква — нават афіцыйна назвалі сябе прадаўжальніцамі рымскай імперыі. У сапраўднасці не было аднаго Рыма. Імперыя Траяна ці Канстанціна мала ўжо напамінала рэспубліку Гракхаў і Катона, а амаль нічым Рым — горад з VII-VI стагоддзяў да н.э. здамінаваны суседнімі этрускамі.

У вялікай гісторыі Рыма кожны мог і можа знайсці сабе прыклады вартыя ажыццяўлення нават у наш час. У мінулым, дарэчы і цяпер таксама, мала хто звяртаў увагу на гаспадарчую сістэму Рыма, на развіццё заканадаўства, культуры, архітэктуры, не ўспамінаючы пра рэлігійную палітыку так рэспублікі, як і імперыі. А было б тут чаму павучыцца і з чаго браць прыклады. Але гэта была і ёсць справа навукоўцаў — гісторыкаў, філосафаў, мастацтвазнаўцаў ды іншых „паразітаў". Не цікавіла яна ніколі свет палітыкі.

Кіруючыя эліты звярталі ўвагу перш за ўсё на палітычны парадак Рыма. Асаблівым зацікаўленнем успрымалася апошняя версія рымскай дзяржаўнасці — імперыя. Дасягненні імператара Калігулы, Нерона, Дыяклетыяна выкарыстоўвалі і ўзбагачалі сваёю дзейнасцю сотні, калі не тысячы князёў, каралёў, цароў, фюрэраў, першых сакратароў, маршалаў. Некаторыя нават апярэдзілі сваіх антычных майстроў. Успомнены Калігула ў параўнанні з Іванам IV, царом Масквы, гэта толькі смешнаваты вар'ят і садыст, якога баялася сталічная эліта. Ваню маскоўскага запамятала ўся дзяржава. Амаль палова жыхароў дзесьці прапала падчас ягонага царавання.

Гісторыя, пачынаючы са старажытнасці, складаецца найчасцей з пераменных цыклаў — „дыктатуры" і „дэмакратыі". Не абазначае гэта зусім, што г.зв. „дэмакратыя" не можа быць больш зверская, чым манархія. Карэнных жыхароў Амерыкі — індзейцаў — вымардавала найбольш дэмакратычнае грамадства ў найбольш дэмакратычнай дзяржаве.

Але пакуль усё гэта толькі гісторыя, варта звярнуць увагу на свой панадворак, на якім таксама ажыццяўляюцца некаторыя старадаўнія рымскія метады кіравання дзяржавай, а асабліва традыцыя ўрадніцкай службы з апошняга перыяду рэспублікі. Калі Візантыю называлі другім Рымам, Маскву трэцім, то сучасную Польшчу можна было б з гэтай прычыны назваць чацвёртым. Як тады перад Юліем Цэзарам выглядала рымская рэспубліка? Урадніцкая эліта — асабліва пасланая Сенатам на правінцыю — імкнулася захапіць такую маёмасць, каб хапіла пасля падкупіць суддзю, пракурораў і каб асталося яшчэ на далейшую палітычную дзейнасць, якая давала новыя магчымасці рабавання маёмасці і яшчэ большую ўладу.

Чытаючы штодзённую прэсу паняволі ціснецца ў галаву параўнанне сучаснай Польшчы і антычнага рэспубліканскага Рыма. Пішацца, напрыклад, у газетах, што той ці іншы вядомы палітык, ураднік, пракурор прывёў сваёй дзейнасцю дзяржаву (падаткаплацельшчыкаў у сапраўднасці) да страт у дзесяткі, сотні мільярдаў злотых. І што? І нічога. Паказваюць яго далей у тэлебачанні, як у добрым настроі прадаўжае сваю місію. Нейкая акцыя „czyste ręce" аказалася фарсам пад загалоўкам „тосі, тосі лапкі"; прэм'ер, які з калегамі і сяброўкай рабіў няясныя інтарэсы, не адчувае нават патрэбы апраўдацца з пастаўленых яму закідаў.

На правінцыі ёсць таксама або і яшчэ горш. Як піша, напрыклад, беластоцкая прэса, Управа горада Беластока падпісала нейкія дзіўныя дамовы найму памяшканняў у цэнтры горада. Адзін уласнік крамы плаціў арэндную плату у памеры 20 тыс. зл. за квадратны метр, другі — 520 тыс., хаця атрымалі яны аднолькавыя ўмовы для вядзення інтарэсаў. Усё згодна з абавязваючым законам. Ніхто і нікога не пытаецца, адкуль такія абсурдныя дамовы, хто пры нагодзе абакраў жыхароў Беластока. Здаўна вядома, што той, хто крадзе мільярды, застаецца зусім бяскарны. Г.зв. „справядлівасць" кранае толькі тых, якім не ўдалося ўкрасці булку ці кансерву ў спажывецкай краме.

Сучасныя царыкі не хочуць жыць горш, чым іх папярэднікі ў XVII і XVIII стагоддзях. Розніца паміж імі толькі такая, што ўладу і грошы атрымалі яны з дазволу народу, якім пагарджаюць не менш, чым люмпенізаваная шляхта пры панаванні Саксонцаў. Ці ж не праявай пагарды да пенсіянераў з'яўляецца будынак ЗУС у Беластоку. Замежная мэбля, крышталі, мармуровыя падлогі, сценкі, поўная раскаш; і каму яна? Можа пенсіянерам? Не, царыкам, якія за грамадскія сродкі пабудавалі сабе палац.

Гайнаўская вуліца гаворыць, што кіраўніцтва новаадкрытага дзяржаўнага банка вырашыла купіць кветкі за 60 мільёнаў злотых, мэблю ўжо раней прывезлі з далёкай Італіі (шукалі рымскіх каранёў?). Усё гэта дзеецца ў часе, калі гавораць нам, што дзяржаўны бюджэт не ў змозе фінансаваць школы, шпіталі, хаця падаткі забіраюць усім працоўным ажно 70% іхняга прыбытку.

Не мае цяпер ужо ніякага значэння, ці пры ўладзе чорныя, ці чырвоныя з зялёнымі, так як без значэння было ў рэспубліканскім Рыме, ці верх бралі „нобілітас" ці „эквітэс". Усе яны былі аднолькава зацікаўленыя толькі ўладай, якая давала грошы, а грошы — яшчэ большую ўладу.

Маем цяпер час рэспубліканскай дэмакратыі, а згодна з логікай мясцовай гісторыі, наступны перыяд павінен быць нейкай формай манархіі. Каб толькі будучы цар, першы сакратар ці іншы фюрэр не быў новым увасабленнем Нерона, ці Вісарыёнавіча.

**Васіль Кургановіч**

# КУДЫ ГНЕ СЯРГЕЙ?

Сяргей Плева. Родам ён з Гайнаўшчыны. Наш хлопец, так сказаць... Годам назад людзі выбралі яго дэпутатам у парламент Рэчы Паспалітай. Я, нават, быў узрадаваўся гэтым фактам, хоць Сяргей прайшоў па спіску Саюза Левых Дэмакратаў. Думаў: нічога, што ён з камуністаў, але, паколькі памятаю яго з ранейшых гадоў, не адракаўся сваіх бацькоўскіх беларускіх каранёў. А знаёмы я з ім гадоў так за трыццаць. Шмат часу.

Больш, вядома, усцешыла б мяне перамога кандыдата Беларускага Выбарчага Камітэта. Ведаю, ведаю: нерэальная справа. Нашы беларусы не бачаць самім сабе мець уласнага — значыць — нацыянальнага прадстаўніка іх інтарэсаў у найвышэйшым форуме дзяржавы. Ну, не, то не, ваша вольная воля, братове і сёстры. Няхай будзе там чырвоны Плева (ці не з Ласінкі?).

І спачатку рабіў ён уражанне саліднага высланніка даверлівага люду. Першы раз насцярожыў нас Сяргей Плева ў той душны ад спёкі банкет у Дзень Незалежнасці, які святкавала пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве, запрасіўшы, таксама, і мяне з жонкаю. Я Сяргея ледзь пазнаў, бо даўно яго не бачыў (так склалася). У поглядах не змяніўся як быццам, затое выглядам сваім зрабіўся ён накшталт капіталіста-крывасмока на памятных з маладосці сталінскіх плакатах пра славутых амерыканскіх імперыялістаў... Заўважыў я ў ім кідкую адну змену, якой не прыдаваў пакуль што значэння: гаварыў Сяргей выключна па-польску, ні трохі не змахваючы хаця б на родны яму палескі дыялект.

Чаму ж так моцна запамятаўся мне той беларускі Дзень Незалежнасці ў варшаўскім палацыку? Сяргей Плева, адшукаўшы мяне ў натоўпе амбасадарскіх гасцей, узяўся спавядаць за... беларускі нацыяналізм! Ад няпэўнасці, ці часам не жартуе ён у пасвяточнаму чарказвонным таварыстве элегантных спадарыняў і дастойных спадароў, я спрабаваў весці размову з ім у лагодна-жартаўлівым тоне, то пацвярджаючы кпліва свой і іншых агідны нацыяналізм, то пярэчачы фразай: *Сяргей, пацярпі яшчэ дзесяць-дваццаць гадоў і беларусаў наогул не застанецца на свеце, хай хоць пры смерці пабудуць яны нацыяналістамі, роўнымі сваім ганарлівым славянскім братам...*

Была размова, і як бы прызабылася, от несур'ёзны эпізод, вечар з чаркай і не болей. Аднак жа, аказваецца, Сяргей Плева не жартаваў: **беларускі нацыяналізм стаўся ўлюбёным яму палітычным пунктам у наступіўшы асенні сезон публічнага жыцця.** Сяргей не дурань і не фанат, ведае, у чыю дудку дзьмухаць, каб не патраціць свой капітал грамадскага даверу.

Нехта здзівіцца: няўжо не чуў інтэлігентны Сяргей Плева пра **дэмакратычны і прагрэсіўны характар нацыяналізму ў меншасці, і пра антыдэмакратычны ды рэакцыйны характар нацыяналізму ў большасці?** Пра гэта нямала напісаўся і сам Ленін, пасля Сталін, падказваю вось Сяргею.

Беларуска-нацыяналістычны рэфрэн у палітычных спевах Сяргея Плевы разлічаны не на тэорыю, а на практыку. Чыхаць яму хацелася на лектуры тэарэтыкаў сацыялізму, на ўсякія там нацыянальныя пытанні ў працах сацыял-дэмакратычных мазгоў эпохі! Яму важны рэйтынг, аплаўз, апладысменты выбарчай кліентуры. Змагаючыся з ценямі ўжо беларускага нацыяналізму, яго вартымі спачування недабойкамі ў асобе літаральна дванаццаці чалавекаў, сярод соцень тысяч, што насуперак усяму народу ўмеюць пісаць і акуратна гаварыць на мове беларускай культуры, яму не дрыжыць рука ў гэтым, існа снайперскім, прыцэле: беларуская простанародная маса настолькі пераарыентавалася супроць беларушчыне, што доўга трэба шукаць цяпер таго вясковага дома, у якім яшчэ пачуеш родную мову ў дзяцей (пра местачкова-гарадскія сямейныя ачагі і заікацца не варта). Кліч: **кусай і рві беларускага нацыяналіста** знаходзіць шырокі, амаль метафізічны водгук. Постбеларускі электарат раве: *Nie damy się wrobić — precz z Białoruskim Komitetem Wyborczym!*

У рэшце рэшт цяжка мець жаль да Сяргея Плевы: хоча „наш хлопец" есці хлеб з палітыкі, што гарантуе яму ў асноўным праваслаўны электарат, але тады толькі будзе дадзена тут гэтая гарантыя, калі менавіта ён завозьмецца крычаць немым голасам на ўсю Польшчу і даносіць, куды трэба, пра беларускі ў спаланізаванай Беласточчыне нацыяналізм. Успомнілася мне пры нагодзе смутна-саркастычная метафарызаваная рэфлексія беларускага выдатнага пісьменніка і акадэміка Янкі Брыля: *І хто толькі нашу цётку не дубасіў?!*

**Сакрат Яновіч**

*Алег Латышонак*

# Магілёў бліжэй Беластока

**Размова з СЯРГЕЕМ АБАДОЎСКІМ, старшынёй Магілёўскай Абласной рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Беларусі**

**„Ніва"**: — *Чаму ваш прафсаюз называецца свабодным?*

**С. А.:** — У Беларусі раней існавалі афіцыйныя, дзяржаўныя прафсаюзы, навязаныя зверху. Свабодныя прафсаюзы створаны былі знізу, самімі рабочымі. Яны ўзніклі з забастовачнага руху, які пачаўся ў красавіку 1991 г., пасля першага павышэння цэн у 2—3 разы. Тады і памяркоўныя беларусы выйшлі на вуліцы Менска, Оршы, Магілёва.

— *Як гэта выглядала ў Магілёве?*

— Шэраг заводаў спынілі працу і выйшлі на цэнтральную плошчу імя Леніна. Стыхійна знайшліся лідэры, якія ўзначалілі рух. Мы былі тады настолькі моцныя, што ўлады далі нам памяшканне ў цэнтральным будынку Магілёва — у Доме Саветаў. Пасяджэнні страйкама адбываліся ў кабінеце мэра горада з удзелам дырэктараў прадпрыемстваў. Урад быў запалоханы і задаволіў шэраг патрабаванняў бастуючых, перш за ўсё павысіў зарплаты. Дзякуючы таму пагасіў ён хваляванне працоўных.

— *Знаем гэты механізм з польскай гісторыі. Усё-такі не ўсіх задаволіла самое павышэнне зарплаты?*

— Перад лідэрамі працоўнага руху стала пытанне: што рабіць далей? Некаторыя выступалі за захоп мясцовых прафсаюзаў, іншыя (сярод іх быў і я) былі за стварэннем сваіх прафсаюзаў. Мы разумелі, што немагчыма змяніць сістэму афіцыйных, дзяржаўных прафсаюзаў. Выбраны быў гэты другі шлях і створаны былі свабодныя прафсаюзы.

— *Дзяржаўныя структуры, вядома, насцярожана сустрэлі ўзнікненне свабодных прафсаюзаў?*

— У лістападзе 1991 г. адбыўся ўстаноўчы з'езд Саюза свабодных прафсаюзаў. Спатрэбілася цэлых дзевяць месяцаў, каб зарэгістраваць яго статут.

— *Вы ўзначалілі Магілёўскую рэгіянальную арганізацыю СПБ. Які быў Ваш шлях у гэтую арганізацыю?*

— Я закончыў Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут, па прафесіі інжынер-механік. Дзевятнаццаць гадоў працаваў на заводзе машын будаўнічых матэрыялаў. Пачынаў з рабочага, дайшоў да пасады начальніка цэха. Хаця зарабляў добра, незадаволены быў сваёй працай і становішчам рабочых на заводзе. Выступаў супраць дырэкцыі прадпрыемства і мясцовых улад. Спрабавалі зрабіць мяне вар'ятам, але камісія прызнала мяне здаровым.

Усё-такі я звольніўся з завода і пайшоў туды, дзе мяне не ведалі. Стаў працаваць радыёмеханікам радыёэлектроннай апаратуры. Проста кажучы, рамантаваў тэлевізары. Дзевяць месяцаў цярпеў моўчкі, бо даў слова (у мяне чацвёра дзяцей), але не вытрымаў і разам са сваімі паплечнікамі стварыў першы свабодны прафсаюз. Выбралі мяне старшынёю рэгіянальнай арганізацыі.

— *Як выглядае цяпер дзейнасць свабодных прафсаюзаў?*

— У нас менш членаў як у афіцыйных прафсаюзаў. Адміністрацыя прабуе здушыць суполкі СПБ там, дзе яны ўзніклі. Свабодныя прафсаюзнікі ствараюць адміністрацыі дыскамфорт — усюды сунуць свой нос. Дамагаемся

*Працяг на стар. 10*

 

# У школе ў Нурцы

*— Журналістаў ужо я не баюся, —* смяецца на прывітанне дырэктар Пачатковай школы ў Нурцы **Ірэна Сахарчук**, *— бо нядаўна дала інтэрв'ю ў нашу школьную газетку.*

Газетка — гэта чатыры старонкі рукапісу, адбітыя на ксерографе. Называецца яна „Сметнік". У ёй, апрача інтэрв'ю з дырэктаркай, яшчэ дзве размовы — шчырыя, што вельмі важнае — з былымі вучнямі школы, гумар, крыжаванка, розныя адгаданкі. Першы — і, пакуль што, адзіны — нумар з'явіўся ў кастрычніку, дык і пачынаецца пажаданнямі настаўнікам з нагоды іхняга свята.

*— Вучні вельмі зацікавіліся магчымасцю выпускаць сваю газетку, —* кажа настаўніца польскай і беларускай моў **Мар'я Заброцкая**, *— хаця цяжкавата выцягнуць ад іх другі нумар. Я ім, аднак, нічога не навязваю, самі маюць шмат цікавых праектаў, думак — некаторыя пішуць зусім нядрэнныя вершы — дык можа хопіць ім настойлівасці, каб іх рэалізаваць. Газетку рыхтуе восьмы клас. Інтэрв'ю ў пані дырэктар бралі: Агнешка Якімюк, Хрысціна Якімюк, Агнешка Сідарчук і Улька Тарасюк.*

*— Пра мяне крыху няпраўды напісалі, —* дырэктар Ірэна Сахарчук не здаецца быць злоснай, *— я ім не сказала, што была старанлівай вучаніцай, толькі спакойнай. Няпраўда таксама, што я люблю „бульбу ў кожнай форме і ўсё астатняе". Але больш сур'ёзная справа, што адзін анекдот не вельмі прыстойны паявіўся. Трэба будзе, відаць, увесці нейкую форму цэнзуры.*

* * *

У Пачатковую школу ў Нурцы, што ў гміне Боцькі, ходзіць 50 дзетак, з гэтага 5 — у нулявы аддзел. Апрача самога Нурца да гэтай школы прылічаны вёскі: Дубна, Малочкі, Быстрэ, Шашылы. З трох першых дзяцей давозіць гмінны аўтобус. З Шашыл у нурэцкую школу ходзяць усяго дзве сястры і больш дзяцей адтуль не будзе.

У школе трое дзетак каталіцкага веравызнання, астатнія — праваслаўныя. Беларускую мову вывучае 17 асоб.

*— Я тут працую першы год, —* гаворыць Мар'я Заброцкая, *— і толькі пазнаю школу. Прыслухоўвалася, паякому дзеці гавораць на калідоры ў час перапынкаў. У большасці ўжо па-польску. Аднак пэўным спрашчэннем было б думаць, што якраз польскамоўныя не хочуць хадзіць на ўрокі беларускай мовы.*

На пацвярджэнне сваіх слоў кліча чацвёртакласніка, які шалёна гойсае па калідоры. Ён якраз адкрыта гаворыць — пры чым, не па-польску — што не хоча вучыцца беларускай мове. На пытанне, чаму, адказвае — бо не. І ўсё.

*— Я стараюся заахвоціць, не перагрузіць навукай, —* расказвае настаўніца, *— і казкі чытаем, і розныя гульні ўводжу на ўрок. Вучні любяць, калі іх пахваліць, дык я стараюся не ацэньваць занадта строга. Калі я нядаўна другакласніку паставіла шасцёрку, то ён здзівіўся, што і па беларускай мове ёсць гэтая ацэнка. Добра было б, каб праграмы навучання беларускай мовы ў большай ступені ўлічвалі спецыфіку гэтага прадмета, каб не зводзіліся да сухога пераказвання пэўных ведаў, але прадбачвалі і гульню, і песню, і іншыя формы заахвочвання вучняў.*



*Мар'я Заброцкая навучае польскай і беларускай мовам.*

* * *



*Дырэктар Ірэна Сахарчук задаволена сваімі настаўнікамі.*

Дырэктар Ірэна Сахарчук задаволена, што, дзякуй Богу, у школе вялікіх праблем няма. Хваліць сваіх настаўнікаў, якія вельмі адданыя сваёй працы. Грамадска рыхтуюць вучняў да экзаменаў. У школе дзейнічае яшчэ Польскі чырвоны крыж, хаця ў іншых ліквідуецца. Малодшыя вучні належаць да зухаў, старэйшыя — да гарцэраў. Школьнай гарцэрскай дружынай апякуецца пані **Барбара Гуральчук**. Рыхтуе яна сваіх падапечных да розных конкурсаў, ці то дэкламатарскіх, ці гістарычных ведаў. Нурэцкія гарцэры на Каляды ходзяць з гвяздай і такім чынам зарабляюць грошы на розныя выезды, сустрэчы. У мінулым годзе частку грошай з калядавання прызначылі на ўрачыстасць заканчэння восьмага класа.

У школе існавала спартыўна-танцавальная група, якая нават на Дні Бельска выязджала. Толькі што яе стваральніца **Яўгенія Лабадзінская-Матвяюк** цяпер у мацярынскім водпуску.

Пані дырэктар хваліць святліцовага **Францішка Высоцкага** за яго залатыя рукі. Патрапіць ён з рознага непатрэбнага ламачча зрабіць вучням цудоўныя падарункі, як тэнісны стол, сетку для мініяцюрнага валейбола, кош для баскетбола. Пан Высоцкі з аднолькава вялікай дбайнасцю рыхтуе і спартыўную пляцоўку, і рамкі для насценгазетак.

Настаўніцы выказваюць сваю ўдзячнасць войту Боцькаўскай гміны **Юльяну Барану** за дапамогу ў правядзенні рамонту школьнага будынка. Дзякуючы войту, які з гміннай бібліятэкі аддаў шмат вартасных кніжак, кнігазбор школьнай бібліятэкі амаль падвоіўся.

* * *

Сёмы клас піша двухгадзінную працу па польскай літаратуры. У плане адзін з гэтых урокаў павінен быць супольны для сёмага і восьмага класаў. Настаўніца карыстаецца маёй прысутнасцю і прапануе сустрэчу са старэйшымі вучнямі. Размаўляем пра розныя справы. Я расказваю крыху пра журналісцкую працу, пытаюся іх пра планы. Большасць яшчэ не вельмі ведае, што хоча ў жыцці рабіць. Трое, на восем асоб, збіраецца працягваць навуку ў Бельскім беларускім ліцэі. Гэта Агнешка Якімюк, Уля Тарасюк і Марэк Катушэўскі. Кранаем справу іхняй газеткі.

*— Я прапанавала ім, —* кажа Мар'я Заброцкая, *— каб зрабілі старонку па-беларуску, але не вельмі хочуць. Можа, калі лепш пазнаёмімся, удасца ўсё-такі мне намовіць іх на гэтае.*

Паню дырэктар хвалюе непраўдзівая інфармацыя „Сметніка" пра яе кулінарныя густы. У настаўніцкім пакоі ўсе падкрэсліваюць яе кухарскія здольнасці, асабліва ў пячэнні салодкага. На доказ гэтага запісваю вельмі стары рэцэпт вельмі смачнага пячэння, але, паколькі жонка яшчэ яго не выпрабавала, не асмельваюся дзяліцца ім публічна.

У настаўніцкім пакоі ўдаецца мне ўсё-такі пазнаць адну праблему Пачатковай школы ў Нурцы. Электрычны званок не заўсёды працуе. На шчасце ёсць ручны — куды больш практычны.

**Мікола Ваўранюк**
**фота аўтара**



*Сямікласніцы чакаюць тэмаў класнай пісьмовай працы па польскай мове.*

# Польскія афіцэры вучацца беларускай мове

Другі ўжо год у Вайсковай тэхнічнай акадэміі ў Варшаве вядзецца навучанне беларускай мовы. Вучацца ёй студэнты першага і другога курсаў, пяць гадзін (па 45 хвілін) у тыдзень. Былі створаны чатыры групы, большменш па 15 чалавек кожная.

„Маем клопаты з падручнікамі, з лектарамі, — кажа вядучы заняткі д-р **Рышард Віткоўскі**, — але неяк спраўляемся. Карыстаемся перш-наперш падручнікамі выдадзенымі ў Польшчы, хаця і з Менска сёе-тое нам трапляецца. На жаль, не ўсё. Знаёмыя прыслалі мне з Гродна відэакасету з запісам вестак Беларускага тэлебачання. Дыктары гаварылі на прыгожай беларускай мове, але ўсе астатнія — па-расейску. Сорамна было б такі матэрыял паказваць студэнтам, дык я і не паказаў.

Я думаю неўзабаве падрыхтаваць свой скрыпт. Да працы тут рыхтуецца калега, які добра ведае беларускую мову. Значыць, навучанне гэтага прадмета мае шанц развівацца.

Ад заняткаў я не чакаю Бог ведама чаго. Лекторый гэта не філалогія, перфектна авалодаць моваю на ім немагчыма. Я прыкладаю намаганні, каб навучыць практычнага карыстання беларускай мовай. Пачынаем, напрыклад, з назваў прадметаў у зале, потым ідзем далей. Вучымся звяртацца ў канкрэтных сітуацыях. Сухой граматыцы адводзім менш увагі".

Паводле д-ра Віткоўскага, беларуская мова карыстаецца вялікім поспехам у студэнтаў — будучых афіцэраў Польскага Войска.

**М. В.**

# СУСТРЭЧА З ХІРАМАНТКАЙ

26 лістапада г.г. у беларускім клубе ў Гданьску адбылася сустрэча з хіраманткай з Менска, Верай Пшыбыльскай, якая зараз працуе ў Цэнтры натуральнай тэрапіі ў Гданьску-Вжэшчы. Яна расказала нам пра свае вельмі раннія зацікаўленні хірамантыяй. Навуковы падыход да гэтага, што запісана ў кожнага на далонях, апісала яна ў сваёй кніжцы, якая зараз у перакладзе на польскую мову перавыдаецца ў Кельцах. Нам таксама было цікава даведацца, што ў нас запісана на далонях. Прафесійнасць, грунтоўныя веды і сімпатыя спадарыні Веры дазволілі нам прыемна правесці вечар і пры нагодзе даведацца, што нас чакае. Каб падмацаваць сваю варажбу, яна расказала нам пра дзяўчыну, якая была ў яе два дні перад вялікім пажарам у зале гданьскай суднаверфі. Хірамантка вычытала з яе далоні пажар, у якім яна апынецца ў сваім жыцці. На жаль, не прадбачыла, што гэта адбудзецца так хутка. Дзяўчына пайшла на канцэрт гурту „Гольдэн Лайф", дзе меў месца згаданы пажар. Зараз ляжыць яна ў шпіталі.

Вера Пшыбыльская будзе ў Гданьску да 24 снежня гэтага года. Калі хто хоча з ёю кантактавацца, падаю адрас і тэлефон:

Gdańsk
ul. Grunwaldzka 139, p. 24—25, I piętro
tel. 41-00-01 (да — 04)

Наведвальнікаў прымае яна штодня ад 11.00 да 18.00.

**Лена Глагоўская**



 

# Зорка
## старонка для дзяцей

### ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

*Іван Муравейка*

**ПРА МЫШКУ І КНІЖКУ**

Мама Мыш
Купіла кніжку
Для сваёй дачушкі
Мышкі.

— Час табе
Ужо за парту.
На, грызі
Навуку ўпарта.

Мама Мыш
Прыйшла з работы.
— Без мяне рабіла
Што ты?

Адказала маме
Мышка:
— Натамілася
Я з кніжкай.
Гэтулькі было
Мне мукі,
Але згрызла ўсю
Навуку!

*Ала Канапелька*

**СНЕЖНАЯ БАБА**

Баба снежная,
баба смешная.
На двары стаіць,
на варон глядзіць.
Я ў акне сяджу,
да яе хачу.
Ад марозу нос
у бабулі змёрз,
а яна ўсміхаецца,
грэцца не спяшаецца.



*Дзяўчаты з Нараўкі.* Фота Г. Кандрацюк

## Прывітанні Нараўцы!

У Нараўцы ўсё больш вучняў цікавіцца беларускай мовай. Часта здараецца, што дзеці самі намаўляюць сваіх сяброў і разам прыходзяць на заняткі па роднай мове. Тут вы пачуеце мілагучныя песні, цікавыя казкі, непаўторныя апавяданні. Многія вучні ўдзельнічаюць у беларускіх конкурсах. Дзякуючы гэтым стараннем яны знаёмяцца з чароўнымі тайнамі сваёй спадчыны. Абавязкова трэба пахваліць вучняў пятага класа. Многія пяцікласнікі ўжо прыгожа чытаюць і пішуць. На ўроках яны праяўляюць вялікую актыўнасць, цікавяцца „Зоркай" і асабліва лёсам мышкі Пік-Пік. Варта таксама назваць найлепшых вучняў гэтага класа. Гэта: Бася Семяняка, Моніка Шыманская і Мар'юш Сакоўскі.

Усім вучням „Зорка" жадае самых шасцёрак і поспехаў у беларускіх конкурсах.

Г.К.

# Неўзабаве Каляды




У многіх мясцінах амаль усе дзеткі ходзяць калядаваць. Каб зарабіць многа грошай, трэба нямала напрацавацца. Самае важнае, каб песня была новай і спявалася ўпершыню. За такую не толькі даюць вялікія грошы, але і ўспамінаюць не бадай што ўвесь год.

Прапаную вам сёння адну беларускую калядку. Дапаможнікам у развучэнні можа быць магнітафонная касета Данчыка. Беларускі спявак з Амерыкі якраз і спявае гэтую калядку.

**Учора звячора**

Учора звячора *(два разы кожны радок)*
Засвяціла зора.

Зора засвяціла —
Свет узвесяліла.

Свет узвесяліўся
Хрыстос нарадзіўся.

Хрыстова раджэнне —
Людзям на збаўленне.

Людзі прыбягайце
Хрыста прывітайце.

Здаровы бывайце,
Нам Каляду дайце.

Здаровы святкуйце
Дайце не шкадуйце.

**Увага!**
„Зорка" аб'яўляе конкурс. Самае цікавае апісанне вашага калядннага абраду, які дашлеце ў рэдакцыю, будзе адзначана шчодрай узнагародай.

# Вясёлы куточак

Настаўнік убачыў на падлозе ў класе недакурак.
— Чыё гэта?! — грозна запытаў вучняў.
— Ваша! — адказалі яму. — Вы яго першы ўбачылі!

* * *

— Чаму індзейцы выкурвалі трубку і заключалі мір?
— Таму, што пасля двух-трох зацяжак у іх не заставалася сіл ваяваць.

* * *

— Мама, а наш татка быў сціплым чалавекам?
— Так. Інакш ты быў бы старэйшым на пяць гадоў.

* * *

Вовачка выходзіць з ваннай:
— Мама, ты ведаеш, колькі зубной пасты ў цюбіку?
— Не ведаю.
— А я ведаю! Ад сцяны праз усю ванную і да кухні!

* * *

Настаўнік да непаслухмяных вучняў:
— Калі я расказваю вам пра кракадзіла, то ўсе павінны глядзець не ў акно, а на мяне!

* * *

Настаўнік пытаецца ў вучняў:
— Хто з вас можа прывесці прыклад выпадковага збегу абставін?
Падымае руку Пецька:
— У маіх таты і мамы ў адзін і той жа дзень быў шлюб.

Адшукаў
**Валеры Бабей**

*Вершы Віктара Шведа*

**ЧАТЫРЫ ГАДЫ**

Цешымся надзвычай шчыра,
Радасны настрой у хаце.
Годзікаў ужо чатыры
Споўнілася нашай Наце.

Нам расце яна на славу,
Кажа, што яна ўжо „дама".
Больш становіцца цікавай
І дапытлівай таксама.

Ганарыцца, што ў прадшколле
З наймалодшымі не ходзіць,
Малышом не будзе болей,
Ёй пачаўся пяты годзік.

Урачыстасць наша сёння,
Нараджэння дзень Наташы.
Мы цябе віншуем, доня,
Гонар наш і радасць наша.

**ФАРСІСТАЯ НАТА**

Не абрэзвай, маці,
Ізноў маіх валос.
Хачу дачакацца
Доўгіх плеценых кос.

Хай цябе не трывожыць,
Што хачу я фарсіць.
Як стану прыгожай
Хлопцы будуць любіць.

**ЗЯМЛЯ РАССЫПЛЕЦЦА НАМ ХУТКА**

Добра ў пясочніцы Натальцы
З сяброўкамі штодзённа забаўляцца,
Сухі пясок перасыпаць у пальцах
І будаваць пясчаныя палацы.

І раптам радасныя Наты вочкі
Напоўніліся неабсяжным смуткам:
— Калі Зямля з такога вось пясочку,
Тады яна рассыплецца нам хутка!..

**ЦЭНІЦЬ НАТА МАМЫ СВЯТА**

Сёння ў хаце мамы свята,
Памятае аб ім Ната.
Яна ўласнымі рукамі
Уручае кветкі маме.

— А чаму ж ты, мая дзетка,
Грошы выдаеш на кветкі,
Яны ж нам растуць ля хаты?
— Іх няма ўжо, — кажа Ната.

**ПРЫПАЎЗЛО МЯСА**

У пясочніцы пясок
Хлопчык грабе рукамі.
— Што ты ясі цяпер, сынок? —
Пытае яго мама.

— Ем мяса, — кажа Ярaслаў, —
Не дам яго нікому.
— Адкуль жа ты там мяса ўзяў?
— Дык прыпаўзло, вядома.

**ВУШЫ — КАБ БАЧЫЦЬ**

Настаўнік запытаў Паўлушу:
— Навошта чалавеку вушы?
Той адказаў: — Дык не іначай,
Вушы патрэбныя, каб бачыць.

— Я думаю, што табе вуха
Патрэбнае каб мог ім слухаць?
— Каб я не меў вушэй тых пару,
На чым насіў бы акуляры?

**НОЧЧУ ВАРТАВАЦЬ НЕ СТРАШНА?**

Рана ўнучак-малалетка
Дзеду стаў пытаць:
— А табе не страшна, дзедка,
Ноччу вартаваць?

А на гэтае пытанне
Сцвердзіў дзед Лявон:
— Страшнавата, мілы Ваня,
Пакуль не зморыць сон.

# Атррррасіны







Пятніца, 28 кастрычніка г.г. Перапоўненая зала Гайнаўскага дома культуры. У цэнтры здарэння — першакласнікі беларускага ліцэя.

У мерапрыемстве ўдзельнічалі вучні гайнаўскіх школ, настаўнікі, госці, бацькі.

Арганізатары — вучні II Б і II Ц класаў мелі не лёгкую задачу.

Прыйшлося ім атрэсці больш за сотню „żółtodziobów". Канкурэнцыі праходзілі ў турэмнай стыхіі, пад лозунгам „Zakład Karny Zacisze". Трэба было перажыць ім 24 выдумкі вельмі памслівых другакласнікаў.

— Кожны гэта пераходзіць, нас таксама размалявалі, — тлумачыліся дзелавітыя дзяўчаты.

Пасля гульняў наступіла ўрачыстая хвіліна — прысяга.

— Быць верным сваёй школе і яе традыцыям, — паўтаралі героі дня.

Хвіліну пазней загрымелі гукаўзмацняльнікі. У зале завіравала. Дыскатэка працягвалася да позніх гадзін.

Папулярнасць ліцэістаў у Гайнаўцы ашаламяючая. Аб гэтым сведчаць баталістычныя падзеі, якія разыграліся перад дзвярыма ГДК. Многія паклоннікі ліцэістак сілком урываліся ў „недаступную" сяродзіну. А дзяжурныя, якія сачылі за парадкам, таксама не драмалі. Самых раз'юшаных „рыцараў" па хатах развозіла паліцыя.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### Шакаладнае дрэва

Вераніччына бабуля вельмі любіла вырошчваць у сваёй кватэры прыгожыя кветкі. А акрамя кветак раслі ў бабулі на падваконніку маленькія памідоры, перчыкі і нават лімоннае дрэва. Бабуля часта расказвала Вераніччы, якое гэта цуда — калі садзіш у зямлю маленькае зернейка, а з яго вырастае цэлы куст ці нават дрэва. А вось у Вераніччынай мамы кветкі чамусьці не прыжываюцца надоўга. Вось і цяпер звяла прыгожая пушыстая расліна, і давялося яе выкінуць. На вакне застаўся напоўнены зямлёй гаршчок. „Цікава, што туды пасадзяць?" — думала мышка. „Можа, памідорнае зернейка? Ці гарбузную семачку? А вось цікава, калі пасеяць цукерку, што вырасце?"

І прыйшла мышцы ў галаву бліскучая думка. Канечне, калі пасеяць цукерку і старанна яе паліваць, вырасце цукерачнае дрэва! Як у Вераніччынай кніжцы намаляванае — праўда, там на дрэве раслі яшчэ розныя цацкі, свечкі, гірлянды. Дрэва моцна нагадвала ёлку, але цяпер мышка Пік-Пік ведала дакладна: гэта цукерачнае дрэва!

Пабегла мышка ў сваю норку, перабіраць прыпасы ў пошуках насення. На жаль, цукерачкі засталіся толькі лядзенчыкавыя, а гэта не такі ўжо смак... А вось ляжыць маленькі кавалачак шакаладкі! Цудоўна! Шакаладнае дрэва — тое, пра што марыць кожная мышка.

Пік-Пік пракалупала ў зямлі глыбокую дзірку, асцярожна апусціла туды сваю шакаладку (ні разу тую не ўкусіла) і засыпала. Верх старанна зараўняла — каб ніхто не здагадаўся, які скарб схаваны ў пустым гаршку, і пабегла на кухню за вадою. Палівала Пік-Пік шакаладнае дрэўца кожныя паўгадзіны. Адразу вадою, пасля — малаком: бо малочны шакалад смачнейшы. А праз дзень не вытрымала: нешта не расце дрэўца... Раскапала зямлю, каб паглядзець на насенне, а насення таго — і няма! Ледзь не заплакала мышка: старалася, старалася, а нехта выкапаў шакаладку і з'еў! Хто б то мог быць? Пепіта? Не, тая шакаладку не любіць. Мама? Тата? Веранічка? А можа Максімка? Ён, падросшы, такі шкодны зрабіўся — паўсюль лезе, усё бярэ ды на зуб каштуе. Пабегла мышка да Максімкі. А той сядзіць на дыванку і, праўда, нешта жвакуе.

— Аддавай маю шакаладку! — запішчала мышка. — Аддавай!

Максімка ўзяў і выплюнуў тое, што трымаў у роціку. Але гэта аказаўся вялікі сіні гузік.

— Немаведама што робіцца ў гэтай хаце! — бурчэла мышка. — Дзеці, бедныя, гузікі ядуць, у мышак бедных насенне шакаладнага дрэва крадуць... З зямлі дастануць!

Мышчына бурчэнне пачула Веранічка, папыталася, што за бяда. Пік-Пік і расказала ўсё сваё гора. Ды лепш бы не рабіла гэтага. Насмяялася Веранічка ды растлумачыла мышцы, што з кавалачка шакаладкі і нават з цэлай цукеркі нічога не вырасце, а шакаладка ў вадзе проста растае, як снег...

— Ну чаму я яе не з'ела... — успамінала мышка прапаўшую шакаладку і доўга не магла заснуць. Праўда, паабяцала Веранічка, што цукерачнае дрэва хутка ў хаце з'явіцца, і якраз такое, як на малюнку...

**Людміла Рублеўская**

<u>З гісторыі Беларусі</u>

# ЧАВУСЫ

Некалі нашым далёкім продкам спакойнага жыцця не давалі татары. З няблізкіх крымскіх стэпаў з'яўляліся іхнія шматлікія орды, і тады нікога не шкадавалі ворагі — смерць і гора сеялі за сабою, пакідалі толькі папялішчы на месцах былых вёсак і гарадоў ды целы пасечаных-пастраляных людзей. У палон заўсёды забіралі прыгожых жанчын і майстроў-умельцаў, астатнім смяротны прысуд выносілі на месцы. Часта набягалі на тагачасныя беларускія землі татары. З тых далёкіх часоў і паданне пра ўзнікненне Чавусаў да нас дайшло.

Там, дзе стаіць сённяшні горад, было невялічкае паселішча, якое яшчэ і назвы сваёй не мела. Адвеку жыхары яго займаліся паляваннем, лавілі рыбу, але не забываліся і на бяду, якая няманяма ды і завітвала да іх у госці. Так здарылася і на той раз. Недзе пад полудзень прымчаўся на ўзмыленым кані вершнік з бліжэйшай вёскі з папярэджаннем, каб як мага хутчэй кідалі ўсё і ўцякалі ў лясы, бо на іх напалі татары, якія ўжо гадоў колькі не турбавалі мясцовыя вёскі. Мужчыны выправілі жанчын з дзецьмі і старых адправіць у бліжэйшую пушчу, а самім чакаць ворагаў тут.

Неўзабаве на дарозе закурэў пыл і паказаліся вершнікі. Імчалі яны бяспечна, спадзеючыся на тое, што мясцовыя жыхары нічога не ведаюць. Але дарэмна яны спадзяваліся. Заляскалі звонкія лукі і паляцелі трапныя стрэлы з сасновага цісу, якія нават самага буйнага звера на два бакі прабівалі. Закруціліся ворагі на месцы, загарлалі. Многія пападалі мёртвымі з коней. Адступілі татары а потым ізноў кінуліся напераді. Дрэнна скончылася б справа для абаронцаў на гэты раз, каб не нечая страла, што трапіла прама ў горла татарыну ў бліскучай кальчузе. Закрычалі тады незнаёмцы, пасаскоквалі з коней, кінуліся да яго. Мясцовыя жыхары тым часам без перашкод адышлі ў лес. Татары гэтак жа нечакана зніклі, як і з'явіліся. Толькі на месцы сутычкі пахавалі сваіх забітых і таго воя ў бліскучай кальчузе. Аднекуль даведаліся ў народзе, што звалі яго ворагі Чавус-военачальнік. З таго часу і паселішча ля магілы сталі зваць — Чавус, а жыхароў ягоных — чавусамі.

**Аляксей Ненадавец**

*Ніл Гілевіч*

### СНЕЖАНЬСКАЯ ІМПРЭСІЯ

Белыя
  сыплюцца долу крышталікі,
Белыя
  крышацца хмаркі ўгары.
Сосны
  захутаны ў белыя шалікі.
Белая
  мітусь у белым бары.
Белая
  мяккая ціша няхрусткая,
Белай
  дрымотай спавіты кусты.
Белае
  белле... Зіма беларуская...
Што ж мне
  не дорыш снягурачку ты?

*Пятро Ламан*

### ДЗЯДЫ

Старэчымі, шурпатымі рукамі
Бабуля кроіць
Чорны каравай.
Зіхціць на сонцы
Вузкая палоска сталі,
Што працінае бохан
І на край настольніка
Кладуцца лусты хлеба.
Сухія вусны ціха нешта шэпчуць
Унукам... Бацьку... Маці...
Госцю ў хаце...
У вечаровым сонцы
Над абрусам
Бабуля кроіць лёс.

# З дзённікаў С. Яновіча

**1990 - 08 - 25.**

(...) „Gazeta i Nowoczesność" nr 32 — выказванне Валіка з нагоды майго інтэрв'ю (н-р 23). Істотны тэкст, з якім нельга не пагадзіцца. У некаторай ступені нават засаромеў мяне...

Паявіўся ў польскім тэлебачанні magazyn mniejszości narodowych — U siebie, штомесячны. Паказвалі жыдоў, украінцаў; сёння — беларусаў: добра пачаў Макс, цікавымі былі гутаркі з людзьмі ў Баброўніках, з райцамі ў Гайнаўцы; эпізоды Купалля ў Гарадку, Фестывалю беларускай песні ў Беластоку. Праблемнай была гэта перадача, прычым уся пад знакам БДА. І добра сталася, што я выкруціўся ад яе, рэкамендуючы на першы план менавіта Макса. А то ўсё я і я! (...)

**1990 - 09 - 05.**

Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. Што гэта? Ідзя быць палітычным беларусам. Прыдалося б больш фармалізацыі? Бадай, так. Значыць, патрэбны хоць сякі-такі платны апарат, а няма магчымасцяў утварыць нават адзін штат (актуальна ў касе каля 15 млн. зл.). Усе нашы грошы — ад Сельвесюка (ЗША). Не створым, прынамсі адну, уласную фірму. Дзялец у нашым асяроддзі няхутка аб'явіцца. Ёсць пару, але ўсяго з талентам дробнага спекулянта. Вось і ліміт дзейнасці (БГКТ атрымлівае ад ураду сотні мільёнаў!).

БДА — толькі маральная сіла? Болей рух, чымсьці партыя? Аднак, партыя, бо хочам ісці і ідзем далей за культурныя мэты. Саюз палітычных беларусаў дзеля беларускага палітычнага патэнцыялу, без утварэння якога Беластоцкі край напэўна застанецца ў становішчы калоніі. Беларуская палітычнасць — безальтэрнатыўны шанц на развіццё г. зямлі, бо польскасць абазначае згоду на перыферыйнасць. Бо, паляк мусіць бачыць інтарэсы ўсяе Польшчы перад усім, а беларус — не! Айчына паляка — ад Буга да Одры, таму Беласточчына ў ёй не можа быць яму найважнейшай. Шанц Беластоцкага краю ў тым, што ён **т о л ь к і б е л а р у с у** — перад усім! Вось і палітычны стрыжань Аб'яднання.

**1990 - 09 - 08.**

Толькі што з Нарвы: здарылася, здаецца, важнае! З майго падгавору, тутэйшы войт Ян Тапалянскі — разам калісь студыявалі — ухапіўся за ідэю саюзу гмінаў і наладзіў у сябе сустрэчу войтаў ды старшыняў гмінных радаў. Прыехала іх на дзіва шмат, бо добры момант наспеў; з Гарадка, Нараўкі, Белавежы, Чыжоў, Бельска, Мілейчыц (не з'явіліся з Гайнаўкі, Дубічаў-Царкоўных, Орлі, Кляшчэляў, Чаромхі). Ад БДА — Генік Мірановіч выклаў сэнс саюзу, што сабраныя прынялі з поўным разуменнем (і толькі некаторыя гаварылі па-польску, па звычцы). Я тлумачыў агульнае становішча; Віктар — трохі дэталяў; Юшчук — юрыдычныя нормы. (...) Створана адпаведны ўступны дакумент, падпісаны ўсімі. (...).

**1990 - 09 - 16.**

Тыдні ды месяцы, гады, проста мільгаюць перад вачыма! Страшна ад гэтага, бо няма калі жыць! Усё намагаюся, каб — урэшце! — можна было: спакойна, разумна, творча. Можа, у гэтую восень даб'юся такога стану душы? Ужо як бы магчымае тое...

**1990 - 09 - 22.**

Вяртаецца згушчаны час. Раптам залез у яго „Tygodnik Podlaski", нападаючы на мяне тэкстам Naprawiacze Cerkwi (— даю рэпліку ў „Ніву"). (...)

**1990 - 09 - 23.**

(...) Сесія Галоўнай Рады БДА. Адметная паглыбленнем у эканамічную праблематыку. І, як кожная папярэдняя, дала пачатак асобнаму этапу ў дзейнасці, напэўна вырашальнаму ў сэнсе перспектыў (палітыку сякую-такую маем, цяпер трэба матэрыяльнага грунту). Ейная зваротнасць яшчэ і ў тым, урэшце, што прыкмячаю выразную самастойнасць у актывізацыі сяброў Рады (...). Гэта выклікае ў мяне прыемнае адчуванне ўсё меншай маёй ролі ў арганізацыі, што сведчыць пра нарастанне ў ёй віталізму (праз тыдзень — узнікне ў Бельску Тэрытарыяльная рада БДА, трэцяя ўжо ўслед за Гайнаўкай і Гарадком). Павінна вырасці нешта трывалае...

Учора быў у мяне Лёнік (эхаў з Варшавы). Злосны, як аса! Ангажаванасць яго ў гэту нашу палітыку моцна ўжо перашкаджае яму застацца мастаком. Калісьці не разумеў ён гэтага, надакучаў мне, не вэрыў. (...)

**1990 - 10 - 08.**

Беларускі сімпозіум „Белавежа'90" (5—8). Уданае спатканне лідэрскага эшалону з Бацькаўшчыны і эміграцыі: Пазьняк са сваім штабам, Запруднік, Надсан, Новік з экіпай бізнесцаў, etc. (больш за дваццаць асобаў). У пачатак, перад ад'ездам у белавежскую „Іву", Пазьняк учыніў драму: шмат наз'язджалася „турыстычнай чумы", выпадковых людзей! Ён і зрабіў, адразу, беспардонную селекцыю („чумою" заняўся Стахвюк, імправізуючы асобную ёй праграму).

(...) Усё гэтае наша БДА набралася як быццам размаху; я ўжо даволі мала дакранаюся да яго: самое абарачаецца. І, таксама, шчасліва пасыпаліся першыя гаспадарчыя дамовы, з Мінскам і з Парыжам (— Шыманец).

(...) Давідзюк ладзіць у Лодзі выстаўку Białoruski drugi obieg (Універсітэцкая бібліятэка). Сам апрацаваў ён і выдаў каталог.

Даўно чаканы мною момант прыйшоў, з'явіўся: не мушу адчуваць сябе цэнтральнай фігурай беларускага руху, мітусіцца над падтрыманнем ягонага пульсу; цяпер гэта ўжо не маленечкая ініцыятыўка лічаных асобаў. Памалу пачну адыходзіць на бок, заахвочваючы дапераду маладых, а сам вярнуся да літаратуры. Хочацца спакою, цішыні, роздумаў.

*(Працяг будзе)*

# ... а для душы — музыка

*Працяг са стар. 1*

здольная выкладчыца бельскай музычнай школы Аліна Негярэвіч.

*— А ці праўда, што, ствараючы калектыў „Маланка", ты падзяліў „Васілёчкі"?*

— Не, у калектыве „Маланка" толькі чатыры асобы з „Васілёчкаў". Ствараючы новы калектыў, я думаў камерцыйна. У „Васілёчках" было 40 чалавек. Працаваць з такой групай цяжэй, чым з 15-асабовай. Я ўжо крыху стаміўся псіхічна. З „Маланкай" лягчэй ездзіць. Да такіх змен прымусіла і эканамічнае становішча. Аднак, рашэнне гэта не было лёгкае. Цяжка было мне расстацца з „Васілёчкамі". Зрэшты, калі ў „Васілёчках" валілася справа, трэба было для ратавання беларускай песні стварыць нешта новае.

*— З „Маланкай" вы шмат ездзіце па свеце...*

— Былі ў Францыі, на свяце Еўропы, у Германіі, на Беларусі. За няпоўных пяць гадоў далі мы 109 канцэртаў. У Варшаве выступалі на аглядзе калектываў нацыянальных меншасцяў, у Гданьску — на другім такім жа фестывалі, у Пінску — на І міжнародным фестывалі фальклору, у Гароднi былі некалькі разоў. Лёгка з імі ездзіць. Гэта маладыя людзі, многія з іх — мае выхаванкі са школы, з маладзёжных калектываў. Энергічныя людзі! На занятках з імі я проста адпачываю.

*— Ужо ж ёсць і касеты...*

— Так. Выдадзены дзве касеты „Маланкі" — народныя песні і калядкі. Неўзабаве выйдуць дзве новыя касеты з беларускімі песнямі, некалькі мы прывезлі з Палесся.

*— Ты гаворыш, Сяргей, што ў „Маланку" прыходзяць маладыя людзі з маладзёжных калектываў, якімі ты кіраваў. А было ж гэтых калектываў нямала: „Дзявочыя ноткі", дзе спявалі вучаніцы ліцэя, „Крынічка" — таксама з ліцэя, „Нашы дзеці" — дзявочая група з падставовай школы н-р 3 і адтуль жа „Жучкі" — мешаная група, у якой ігралі на народных інструментах — дудцы, скрыпцы, акардэоне, тамбурыне і іншых. Дзеці — будучыня!*

— У школе н-р 3 ужо трэці год вяду калектыў „Журавінкі". „Дзявочыя ноткі" якраз канчаюць ліцэй. Ад семдзесят шостага восем разоў змянялася „варта". Выступілі на 50-годдзе Беларускага ліцэя, а пасля яшчэ на бацькоўскім сходзе. Сабраў я вакальна-інструментальную групу хлопцаў з першага класа ліцэя, якія раней былі ў „Жучках". Самі прыйшлі: яны хочуць іграць! Далучылася група дзяўчат з малодшых класаў: яны будуць спяваць. Ёсць у ліцэі вельмі здольныя дзяўчаты — музыкальныя, галасістыя.

*— Ці хтосьці з тваіх выхаванкаў пайшоў вучыцца ў музычным напрамку?*

— Чаму ж не! Валодзя Сахарчук, які быў у гурце „Крынічка", скончыў у Менску Інстытут культуры — аддзяленне дырыжыравання фальклорнымі калектывамі. Працуе ў школе ў Орлі, вядзе музычнае выхаванне, вучыць іграць на піяніна.

З „Крынічкі" таксама Альжбета Томчук, якая вучыцца ў тым жа Інстытуце культуры на тэатральным аддзяленні. Яанна Канопля (цяпер Хількевіч) і Данута Станіслаўюк вучацца ў Гродзенскім універсітэце на аддзяленні пачатковага навучання. Там музычная падрыхтоўка — як піць даць. Данута якраз на практыцы ў Бельску да канца студзеня і ўжо спявае ў „Маланцы".

Альжбета Рыжык з „Крынічкі" вывучае музыказнаўства на Украіне, а з „Дзявочых нотак" — Яанна Крук і мая дачка вучацца ў Ольштыне, у Вышэйшай педагагічнай школе на факультэце музычнага выхавання.

*— Дарэчы, сям'я ў цябе, вельмі музыкальная!*

— Напэўна. Дачка Яанна спявала яшчэ ў „Нашых дзецях", пасля ў „Дзявочых нотках", закончыла падставовую музычную школу па класу фартэпіяна. Пры бацьку лягчэй ёй цяпер вучыцца, бо ёсць у мяне багатая літаратура, розныя кніжкі.

Сын Тамаш спяваў па-беларуску перш, чым пачаў вывучаць мову. Закончыў падставовую музычную школу па класу акардэона, але сказаў, што з гэтым жыццё не звяжа. У галаве яму толькі баскетбол. Перапісваецца з усім светам, а на паўсцяны вісіць у яго партрэт амерыканскага баскетбаліста, Джонсан, здаецца, называецца.

Ну, а з жонкай, ты ж ведаеш, мы і пазнаёміліся ў „Васілёчках".

*— На штодзень ты, аднак, дырэктар Бельскага дома культуры і настаўнік музыкі ў Беларускім ліцэі ды ў Падставовай школе н-р 3.*

— Гэта мой хлеб, а для душы — музыка!

*— Дзякую за размову.*

Гутарыла
АДА ЧАЧУГА

# СУСТРЭЧА З НАДЗЕЯЙ АРТЫМОВІЧ

Сёлета Надзея Артымовіч адзначае юбілей — 25 гадоў таму назад напісала свой першы верш „...ой ляцелі гусі". З юбілеем шчасліва супала выданне надзвычай цікавае кніжкі „Дзверы". Складаюцца на яе — выбраныя вядомым менскім паэтам Алесем Разанавым — вершы Надзеі Артымовіч і спробы іх прачытання тым жа Разанавым.

Кніжцы і юбілею паэткі быў прысвечаны семінар Літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Праходзіў ён у Беластоку 29 кастрычніка. Месяц пасля, 27 лістапада, адбылася ў Бельску — дзякуючы ініцыятыве і гасцціннасці Вялянціна Сельвесюка — больш сціплая, але не менш цікавая сустрэча з Юбіляркай.

Пішучы пра зборнік „Дзверы", Ян Чыквін назваў паэзію Надзеі Артымовіч герметычнай з'явай, спасцігнуць якую не лёгка. Не аблягчае чытачу гэтага і сама паэтка, ашчадная на словы як у сваёй творчасці, так і ў разважаннях пра яе.



*Надзея Артымовіч у час сустрэчы.*

Бельская сустрэча менавіта таму была цікавай, што пра паэзію Надзеі Артымовіч гаварылі не толькі іншыя, але слова брала і сама паэтка. Падкрэсліла яна, што нязменнай тэмай яе вершаў з'яўляецца чалавек, у якім бязмежна падабаецца ёй усё прыгожае. Паэтка не пагаджаецца на ніякія формы інструментальнай трактоўкі творчасці, а тым самым і чалавека.

Цікава было пачуць пра акалічнасці ўзнікнення некаторых вершаў, як і пра студэнцкае асяроддзе Смычковай вуліцы ў Варшаве, дзе фармаваліся гуманістычныя зацікаўленні і мастацкія густы Надзеі Артымовіч.

Сустрэча праходзіла ў камернай сяброўскай атмасферы. Аднак прысутнасць прафесара Яна Чыквіна прымушала — на шчасце — дыскутантаў прытрымлівацца пэўных правілаў. Увесь час размова датычыла паэзіі Надзеі Артымовіч. Такую самадысцыпліну дыскутантаў цяжка пабачыць нават на літаратурных семінарах „Белавежы".

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**

# СВЯЦІЦЕЛЬ МІКАЛАЙ ЦУДАТВОРАЦ

Святіцель Мікалай нарадзіўся каля 280 года ў правінцыі Лікія ў Малой Азіі (цяперашняя Анатолія ў Турцыі). Змалку адзначаўся ён прыкладнымі паводзінамі, праяўляў спачуванне і ахвоту дапамагаць бедным. Пасля смерці бацькоў, а тады ён ужо быў свяшчэннікам, атрыманую ў спадчыну маёмасць перадаў немаёмным, прычым стараўся дапамагаць незаўважна. Праз нейкі час становіцца ён епіскапам Мір Лікійскіх (адгэтуль пайшло ягонае найменне Мірлікійскі). Святіцель Мікалай памёр у сямідзесяцігадовым узросце. Ягоныя святыя мошчы, якія выдзялялі духмянае міра, былі ў 1087 годзе, у боязі перад туркамі, перанесены ў Бары ў Італіі (тады гэтыя землі належалі Візантыі) і захоўваюцца там да сённяшняга дня.

Ужо пры жыцці Святіцель Мікалай здзяйсняў многія цуды, як хаця б выратаванне карабля падчас шторму, на якім плыў ён у Палесціну. З'яўляючыся ў сне імператару Канстанціну Вялікаму, вызваліў нявінна прыгавораных на смерць трох салдат.

Святіцель Мікалай, архіепіскап Мірлікійскі, Цудатворац з'яўляецца заступнікам маракоў, а таксама ўсіх падарожных. Яго памяць ушаноўваем двойчы: 19 снежня (6 снежня па старому стылю) і 22 мая (9 мая па ст. ст.) — у дзень пераносу святых мошчаў.

Ніжэй прыводзім некалькі прыкладаў цудоўнай дапамогі Святіцеля Мікалая, якія былі спісаны манахіняй Варварай з Лясненскага манастыра (каля Белай-Падляшскай; цяпер манастыр гэты дзейнічае ў мясцовасці Провемонт, непадалёк Парыжа).

### Апякун сірот

Манашка нашай абіцелі сястра Анастасія ў час нямецкай акупацыі Югаславіі служыла ў расейскім прытулку для сірот. 20 верасня 1943 года, узяўшы 15 тысяч дынараў, падалася яна ў пякарню, каб заплаціць за дастаўку хлеба. Калі дайшла да пякарні, заўважыла, што была яна закрыта на абед. Тады манашка села на камень адпачыць і заснула. Калі прачнулася, то ўжо пры ёй не было кашалька з грашыма і неатаваранымі талонамі дзяцей на хлеб. Перапалоханая жанчына звярнулася за дапамогай угодніку Божаму і выгукнула: „Святіцель Мікалай!". І ў той жа момант перад ёю з'явіўся маленькі васьмігадовы хлопчык у белым адзенні, з усмешкай на твары, поўны незямной радасці. Трымаў ён за руку большага ад сябе і старэйшага на некалькі гадоў запэцканага і абарванага валацугу. Сказаў ён манашцы, што бачыў, як той украў кашалёк, які зноў апынуўся ў яе руках. Калі яна хацела падзякаваць неспадзяванаму збавіцелю, той умомант прапаў на яе вачах, а злодзей кінуўся наўцёкі. Духоўнік манастыра сказаў потым, што сястры Анастасіі з'явіўся сам Святіцель Мікалай у выглядзе светлага юнака.

### „Согреяние во мразех сущих"

Адна жанчына расказала мне наступнае здарэнне, у час якога збыліся на ёй словы з акафіста Святіцелю Мікалаю. Яна, цяжка хворая, самотна ляжала ў ложку, а сын яе прабываў далёка ад дому. На дварэ стаяў моцны мароз, а ў кватэры было так холадна, што нельга было перанесці дакучлівы холад. Была яна так слабая, што не магла распаліць у печы, а на нейкую



дапамогу таксама нельга было разлічваць. Жанчына астаткам сіл падышла да печкі, укінула некалькі бярвенняў, але раскласці агонь ужо не змагла. Вярнулася ў ложак і ляжала ў ім, дрыжучы ад холаду ды пераносячы духоўныя і цялесныя пакуты. Урэшце стала прызываць Святіцеля Мікалая, вымаўляючы словы з ягонага акафіста: „Ты согреяние сущих во мразех, Святитель Николай! Батюшка! — согрей меня". Не паспела яна дакончыць гэтыя словы, калі ў печы нешта выстраліла, з'явілася полымя, якое ўмомант абняло сырыя бярвенні. Неўзабаве ад жалезнай печкі разышлося жыватворнае для знямоглай жанчыны цяпло. „Гэта Святіцель Мікалай дапамог мне распаліць у печы і я ніколі не забуду майго любімага святога", — сказала жанчына.

### Расказ сястры Лідзіі Д.

Дачка свяшчэнніка, Лідзія Д., якая ў 1926—1929 гадах працавала настаўніцай у прытулку для сірот у манастыры „Нечаканая радасць" каля Парыжа, расказала такую вось гісторыю:

„Ці разумеюце словы з акафіста Святіцеля Мікалая: „Уже бо нестыдно бесом летающим и погрузити корабли хотящим запретив, отгнал еси их"? Напэўна некаторыя сумняваюцца ў тым, што чэрці могуць затапляць марскія судны, але я бачыла гэтае на свае вочы. Калі наш карабель падчас эвакуацыі ў 1920 годзе тануў ля берагоў Грэцыі, я спачатку знаходзілася ў каюце. Вакол раўла страшэнная бура. Яшчэ хвіліна і карабель пойдзе на дно. Усё мне здавалася нейкім сном. Адно, што мне засталося рабіць — гэта маліцца. З малітвай я выйшла на палубу. Я ішла, падала, падымалася і далей ішла. Раптам пад нагамі я пабачыла вузялок з немаўляткам, якое згубіла маці. Астаткам сіл я падняла яго, і, схаваўшы пад адзенне, сказала: „Госпадзе, выратуй гэтае дзіця, і дзеля яго выратуй і мяне грэшную". Адначасна я паабяцала: „Калі ты выратуеш мяне, тады буду бясплатна працаваць у карысць дзяцей". Раптам ахапіў мяне жах, калі я ўбачыла над караблём і на ім процьму пачвараў з крыламі кажаноў і жабінымі пысамі. Намагаліся яны ўтапіць судна. Падумала я тады: „Чэрці!" Адной рукой трымала я немаўлятка, а другою безупынна хрысцілася і адначасна паўтарала: „Госпадзе, выратуй". У гэты момант згледзела я ў паветры ікону Збавіцеля, якая пераносілася па-над караблём, а потым прапала. Пасля з'явілася ікона Святіцеля Мікалая. Разам са мною нехта крыкнуў: „Святіцель Мікалай! Святіцель Мікалай!" Я глянула назад і моцна здзівілася, паколькі за мною стаяў нейкі яўрэй, які паўтараў імя вялікага ўгодніка Божага. Неўзабаве Ягонае імя голасна паўтаралі ўсе. Сярод імглы, пырскаў вады і шуму паказаўся высокі бераг. Побач мяне ўпаў выратавальны мяшок з лінай. Я з дзіцём улезла ў мяшок і нехта выцягнуў мяне на бераг. Там я самлела і прачнулася ўжо на шпітальным ложку. Падзякавала я Госпаду Богу і спытала пра дзіця. Выявілася, што яно ўжо на руках у выратаванай Госпадам маці". (Вышэйпрыведзеныя здарэнні ўзяты з артыкула „Радуйся преславный в бедах заступниче", які друкаваўся ў часопісе „Православная Русь", н-р 23 ад 1992 года, Джордан-віл, ЗША).

Такіх прыкладаў цудоўнай дапамогі Святіцеля Мікалая не бракавала ніколі, не заўсёды, аднак, асабліва ў наш час, хочам у гэтае верыць і бачыць іх.

С.Н.

## „Пересада"

Нядаўна трапіў мне ў рукі 18 нумар лістоўкі „Українець Пудляша". Я здагадаўся, што гэта чарговае выданне Саюза ўкраінцаў Падляшша. Хаця я прынцыпова не чытаю выданняў гэтай арганізацыі, але ў даным выпадку маю ўвагу прыцягнуў загаловак артыкульчыка „Отче Сосна, чи то не пересада?". Прачытаўшы артыкульчык, я дайшоў да вываду, што нельга яго абысці маўчаннем. Артыкульчык, падпісаны ініцыяламі І. Г. (відаць, гэта Юры Гаўрылюк з Бельска), мае ў адносінах да духоўнай асобы і выдатнага даследчыка мінулага Праваслаўнай царквы зняважлівы характар. Змяшчаецца ў ім прымітыўная палеміка з распрацоўкай а. Рыгора Сасны аб гісторыі праваслаўных прыходаў у Бельску-Падляшскім. Не буду весці палеміку з мерытарычнай часткай закідаў, пастаўленых айцу Рыгору, паколькі згаданы артыкульчык не заслугоўвае таго. Хачу, аднак, звярнуць увагу на невядомую мне дагэтуль форму і стыль палемікі. Аўтар, заварожаны ідэалогіяй украінскага нацыянальнага руху, імкнецца любой цаной пераканаць чытача, што гаворкі, назвы і прозвішчы ў Бельску — выключна ўкраінскія. У недазволены спосаб дапускаецца ён моўнай маніпуляцыі ў абгрунтаванні сваіх поглядаў. Беларускія гаворкі параўноўвае ён з літаратурнай моваі і ў такі спосаб пераконвае чытачоў, што жыхары Бельска і ваколіц — гэта ўкраінцы. Абыходзячы беспадстаўнасць такога погляду, І. Г. дасягае самую высокую ступень маніпуляцыі і змяняе назву Падляшша. Аўтару мала ўжо ўкраінскай версіі назвы *Підляша* і ўводзіць новы тэрмін — *Пудляша.* Метад звышінтэрпрэтацыі поглядаў даследчыкаў, злоўжыванне незарыентаванасцю чытачоў і фальшаванне гісторыі прымяняюцца аўтарам дзеля абгрунтавання украінскасці Падляшша. Я сам асабіста не супраць прысутнасці ўкраінцаў. Беларусы — народ вельмі талерантны, які не адмаўляе ніводнай нацыі права на існаванне. Аднак нельга дазволіць, каб абы-які круцель зводзіў нашае грамадства і абражаў нашае духавенства. У згаданым артыкульчыку сустракаем фармулёўкі, якія мецяць у духоўную асобу. Ці не будзе злоўжываннем фамільярнасць тыпу „Отче Сосна" і зняважлівыя папрокі ў бок вопытнага даследчыка ў ягоных поглядах? Аўтар артыкульчыка не толькі парушыў этыкет, але, відаць, забыў з кім палемізуе і хто ён сам.

А. М.

# ВЕТЛІВАЯ СУСТРЭЧА

22 лістапада, пару хвілін перад 10-ай, ля ўвахода ў бельскі магістрат нервовая атмасфера. Гарадская паліцыя пільнуе свабоднага месца на аўтамабільнай стаянцы. „Тут нельга, едзьце далей", — рашуча паўтараюць кожнаму, хто ў гэтым месцы прыпыняецца. На ўсходах што хвіліна спаглядае на гадзіннік першы віцэ-бурмістр Яўген Беразавец.

У 10 пад'язджаюць госці. З машыны выходзіць мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій. Суправаджаюць яго настаяцелі трох бельскіх прыходаў, у тым ліку і а. Юры Такарэўскі, благачынны бельскага дэканата.

На другім паверсе, перад сваім кабінетам сустракае дастойных гасцей бурмістр Андрэй Сцепанюк.

„Тутака, на сутыкненні розных культур, Усходу і Захаду, праваслаўя і каталіцызму, нягледзячы на розныя цяжкія перажыванні ў гісторыі, зараз, пасля ўваскрасення нашай Айчыны, запанаваў новы дух — экуменічнага пагаднення, згоднага сужыцця — пісаны Божай рукою", — сказаў Яго Блажэнства. І дадаў: „Прыбыў я да вас, каб аказаць вам пашану".

Сапраўды, візіт першаіерарха Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Гарадской управе быў беспрэцэдэнтным здарэннем у пасляваеннай гісторыі.

У сустрэчы прысутнічалі, апрача бурмістра і яго намесніка, старшыня Гарадской рады Васіль Ляшчынскі і сябра Рады Арсень Артысевіч, а таксама ўлады гміны Бельск-Падляшскі з войтам Юрым Ігнацюком.

У размове мітрапаліт прыгадаў даваенны Бельск, з 1937 года. Горад быў невялікі, драўляны, але цэркваў у ім было больш. На гэта віцэ-бурмістр Беразавец паказаў на вялікім насценным плане Добраўпарадкавання прасторы горада месцы, дзе будуць пабудаваныя новыя цэрквы — адна пры шашы ў Нарву, а другая пры вуліцы Дубяжынскай. Васіль Ляшчынскі дадаў, што на пляцоўцы Пачатковай школы н-р 3, у месцы, дзе стаяла спаленая ў вайну царква св. Мікалая, будзе пабудаваная часоўня.

„Гэта гістарычны момант, — звяртаецца да мітрапаліта а. Юры Такарэўскі. — Вашае зацікаўленне нашым горадам будзе для ўсіх нас станоўчым штуршком у далейшай працы".

Далей гутарка вялася вакол праблемаў штодзённага жыцця, якія аднолькава хвалююць і Царкву, і магістрат: беспрацоўе, розныя паталогіі, п'янства, злачынствы, наркаманія (тутака ўспомнілася мне турма ў Кожыне, на тэрыторыі Бельскай гміны, якую плаНавалі аддаць для „Монару" Катанскага).

Яго Блажэнства выказаў занепакоенасць тым, што зараз адбываецца ў грамадстве — сваркамі, разбоямі, тым, што паказвае тэлебачанне (парнаграфіяй, насіллем) і тым, чаму вучаць ужо ў пачатковай школе — сексуальнай адукацыяй. „Дзе падзелася класічная літаратура, цудоўная мілагучная музыка? — пытаўся мітрапаліт. — Замест гэтага маем толькі брудную, сенсацыйную кніжку і нейкі „big-beat".

Айцец Лявонцій Тафілюк, настацель Свята-Міхайлаўскай царквы, гаварыў пра дабрачынную дапамогу бедным. „Сапраўды, — падтрымаў яго бурмістр, — нашыя праблемы зыходзяцца. Тыя ж самыя людзі ходзяць у царкву ці касцёл і ў патрэбе ідуць за дапамогай у магістрат".

Падчас сустрэчы, якая праходзіла ў вельмі ветлівай, добразычлівай атмасферы, гаворка ішла і пра станоўчыя з'явы. У пасляваеннай Польшчы было адрамантаваных (або яшчэ рэстаўруюцца) каля 80 храмаў, а 60 — пабудаваных (разам з тымі, якія цяпер будуюцца). Усе прысутныя былі праваслаўныя.

Мітрапаліт, развітваючыся з уладамі горада, паблаславіў іхнюю працу. Калі госці выходзілі, на калідоры чакала ўжо чарга прасіцеляў, з ліку якіх адна кабета заўважыла пад носам: „О, зноў прыехалі па грошы". Гэтую кабету ў магістрат прывёў Анатоль Навіцкі, зараз пенсіянер і дзеяч СДРП, а раней шэф палітычнай паліцыі ў Бельску.

**Юрка Ляшчынскі**

# Магілёў бліжэй Беластока

*Працяг са стар. 4*

павышэння зарплат, адстойваем інтарэсы працаўнікоў.

*— Як тут патрабаваць павышэння зарплаты, калі цэлыя заводы спыняюць працу?*

— Дырэктары тлумачацца найчасцей, што прадпрыемства стаіць, бо разарваны эканамічныя сувязі. Тады пытаемся, што яны зрабілі, каб іх наладзіць або прапануем адысці, калі не ведаюць, як іх устанавіць.

Мы разумеем, што рэканструкцыя прамысловасці непазбежная. У новых абставінах нікому не патрэбныя аграмадныя трактары „Беларусь" або грузавікі „Белаз" і шмат іншых вырабаў. Усё-такі гэта павінна адбывацца планава, а людзей трэба пераабучаць, каб маглі зарабляць грошы на ўтрыманне сваіх сям'яў іншым чынам, нельга выкідаць людзей проста на брук.

*— Як ацэньваеце палітыку новага ўрада Беларусі ў гэтых справах?*

— Я ведаю прэзідэнта Лукашэнку асабіста. Мы, можна сказаць, землякі. Яго калгас быў ніжэй сярэдняга ўзроўню. Апошнія гады здаралася ім заворваць ураджай, бо не паспелі яго сабраць. Прэзідэнт, у сілу таго, што быў старшынёй калгаса, хоча падобным чынам кіраваць усёй Беларуссю.

Усё-такі быць старшынёй калгаса і прэзідэнтам гэта вялікая розніца.

*— Ці ёсць выхад з цяжкай сітуацыі, у якой апынулася Беларусь?*

— Мая абласная рада забараніла мне быць сябрам якой-небудзь палітычнай партыі. Падтрымоўваю праграму БНФ, бо ён гаворыць людзям праўду. Прапанаваны БНФ выхад патрабуе ад людзей падцягнуць паясы і 2—3 гады цяжка працаваць. Людзі, аднак, паслухалі Лукашэнку, які абяцаў паляпшэнне ў тры месяцы.

*— Свабодныя прафсаюзы ў Польшчы існуюць даўжэй, чымсьці ў Беларусі. Ці ў сваёй дзейнасці арыентуецеся на іх вопыт?*

— Абмен вопытам з польскім свабодным прафсаюзам „Салідарнасць" для нас вельмі каштоўны. „Салідарнасць" дапамагае нам таксама ў абучэнні прафсаюзнага актыву і аргтэхнікай.

*— Ці ў сваёй дзейнасці абмяжоўваецеся толькі прафсаюзнай працай?*

— Магілёў знаходзіцца ў чарнобыльскай зоне. Да таго дабаўляецца праблема вялікай хіміі, якая атруціла горад. Тут знаходзіцца адзін з буйнейшых у Еўропе камбінатаў хімвалакна (25 тыс. рабочых). Калі яшчэ існаваў Савецкі Саюз, Магілёў быў у чацвёрцы найбольш забруджаных гарадоў гэтай краіны.

*— Дык цяпер гэта безумоўна найбольш забруджаны горад Беларусі?*

— Таму вялікую ўвагу ў нашай дзейнасці адводзім аздараўленню дзяцей. Выдатную дапамогу аказвае нам у гэтым беластоцкая і агульнапольская „Салідарнасць". Дапамагае нам таксама Польская Аўтакефальная Праваслаўная Царква і ўласна ўладыка Сава. Гэта дапамога не толькі матэрыяльная, але і духоўная.

Сёлета агулам у Польшчы адпачывала 200 магілёўскіх дзяцей. Цяперашні мой прыезд таксама звязаны і з гэтай праблемай. Спадзяюся сустрэцца з архімандрытам Міронам з Супрасльскага манастыра ў справе адпачынку дзяцей з чарнобыльскай зоны ў сем'ях у Супраслі на зімовыя канікулы. Чакае мяне таксама размова з уладыкам Савам наконт аздараўлення дзяцей у 1995 г. летам.

*— Такім чынам кантакты Магілёва з Беластокам пашыраюцца.*

— Гэтым разам прыехаў я таксама з іншымі праблемамі. Хацелася б устанавіць кантакт з БГКТ і наладзіць абмен мастацкімі калектывамі. Мы маглі б супольна арганізаваць гастролі па Беласточчыне ансамбля Магілёўскага аўтазавода. Спяваюць у ім працоўныя, простыя людзі. Выконваюць беларускія, рускія, польскія і ўкраінскія песні, у тым ліку рэлігійныя.

Вельмі хоча таксама прыехаць на Беласточчыну са сваім самадзейным народным тэатрам з Бялыніч заслужаны працаўнік культуры Беларусі Валянцін Ермаловіч. Тэатр мае ў сваёй праграме два беларускія спектаклі: „Дагарэла свечачка" Алеся Петрашкевіча і „Вечар" Аляксея Дударава.

Валянцін Ермаловіч вызваляў Беласточчыну. Яго сям'я атрымала ў час вайны г.зв. „пахаронку", што ён загінуў у баях пад Ломжай. Вельмі хоча цяпер выступіць перад землякамі. Гэта было б для яго як другое нараджэнне.

*— Спядзяемся, што яно збудзецца, а Магілёў, дзякуючы Вашай працы, стане бліжэй Беластока.*

— Мне прыемна тое, што мяне як прадстаўніка Свабоднага прафсаюза Беларусі сустракаюць тут так добра землякі і духоўныя людзі.

*— Дзякуем за размову.*

**Гутарыў**
**Алег Латышонак**

# ПАНАРАМА ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЫ

**(13)**

## Мільярды на пабудову дарог

Каля трох мільярдаў злотых прызначылі на пабудову і рамонт дарог у Гарадоцкай гміне сёлета і ў мінулым годзе. У 1993 годзе адрамантавалі 10 км перш-наперш гравеек, між іншым, на адрэзках з Белявічаў у Вейкі, з Вераб'ёў у Зубкі і ў Свіслачаны, з Баброўнікаў у Коматаўцы, з Залукаў у Навасёлкі, з Зуброў у Свіслачаны ды з Каралёвага Моста ў Калодна. У самім Гарадку пракл али тратуары на вуліцах: Аляксандра і Рыгора Хадкевічаў, Міхалоўскай ды Зарэчанскай.

У гэтым годзе паклалі асфальт на двухкіламетровым адрэзку дарогі з Белявічаў у Вейкі. Адрамантавалі гравейкі з Гарадка ў Дзернякова і з Калодна ў Засады. Яшчэ зараз будуюць ды рамантуюць тратуары на гарадоцкіх вуліцах ды ў вёсцы Меляшкі.

## „Новая" вада

У Гарадоцкай гміне шмат робяць у галіне пабудовы водаправодаў. У 1992 і 1993 гадах здалі ў карыстанне водаправоды ў Меляшках і ў Случанцы.

У гэтым годзе вада з кранаў пацякла ў дамах у Валілах. У 1995 годзе гэтага роду выгаду атрымаюць жыхары вёскі Залукі.

### Жыццё без „засілку"

Са з'явай беспрацоўя ўсе ўжо пакрысе асвоіліся.

Зараз у Гарадоцкай гміне 2,5% ад усяго насельніцтва — гэта беспрацоўныя. 170 з іх не мае ўжо права на дапамогу па беспрацоўю, т.зв. „засілак". Колькасць беспрацоўных амаль з кожным месяцам павялічваецца. Сярод іх найбольш чалавек з прафесіянальнай падрыхтоўкай з няпоўнай сярэдняй (135 чалавек) і сярэдняй адукацыяй (35). Мясцовыя жыхары з вышэйшай адукацыяй працы маюць.

У першым паўгоддзі 1994 года выплацілі звыш 780 мільёнаў злотых „засілкаў": пастаянных, перыядычных і аднаразовых.

Гмінныя ўлады пачалі актыўную дзейнасць дзеля ліквідацыі або хаця частковага змяншэння беспрацоўя. Сорак чалавек накіравалі да публічных і інтэрвенцыйных работ.

## Культура

Гарадоцкі асяродак культуры вядзе актыўную дзейнасць. Ужо сорак гадоў існуе тут мастацкі харавы калектыў. Шмат гадоў вядзе яго музыка-прафесіянал Сцяпан Копа. Працуюць таксама іншыя гурткі: маладзёжны — вакальна-музычны (пад кіраўніцтвам Яна Карповіча), дзіцячы танцавальна-вакальны (пад кіраўніцтвам Віктара Леанкевіча) і дзіцячы лялечны (пад кіраўніцтвам Тамары Бурачэўскай). Гарадок вядомы беларускімі народнымі фэстынамі ды беларускім маладзёжным музычным фестывалем „Басовішча".

Гарадоцкаму хору, ці проста, як яго ўсюды называюць, „Гарадку" ідзе саракавы год з таго часу, калі тамашнія жанчыны ўпершыню выступілі з песнямі перад публікай. Тады, у 1954 годзе, пачыналі ўпершыню Ніна Мушынская, Ніна Цыванюк, Вольга Мядзведзева, Ірэна Паўлючук, Надзея Парэмбская. Дэбют быў удалы, мабілізуючы. Потым былі далейшыя выступленні на ўсё лепшым і лепшым, вышэйшым мастацкім узроўні. Спявалі яны польскія, рускія, украінскія і свае, беларускія песні. Выконвалі песні фальклорныя ды складзеныя Нінай Мушынскай, якая была душой і кіраўніком гэтага калектыву. Дагэтуль глыбокі след у памяці слухачоў пакінулі вясёлыя, жартаўлівыя ды задорныя прыпеўкі — „Гарадоцкія частушкі" яе аўтарства.

На працягу 40 гадоў праз хор прайшло больш за 200 чалавек. У 1967 годзе прыйшоў у калектыў таленавіты і аддадзены музыка Сцяпан Копа. Ён і зараз музычны кіраўнік і акампаніятар хору. Крыху пазней гарадоцкія жанчыны прыдбалі сабе яшчэ саліста Юрку Налівайку. Без гэтых двух мужчын цяжка было б сёння ўявіць сабе гэты калектыў.

Члены „Гарадка" могуць ганарыцца тым, што далі каля 1 500 канцэртаў, у тым ліку за межамі Беластоцкага ваяводства, а таксама на суседняй Гарадзеншчыне. Хор удзельнічаў у шматлікіх песенных конкурсах. Сваімі песнямі заўсёды захапляў, разбуджаў самыя глыбокія пачуцці.

І цяпер актыўнасць хору не слабее. Не старэе яго любоў да песні. Ён далей папулярызуе і нясе ў свет роднае слова, жывую беларускую песню, наш багаты фальклор.

З выпадку 35 угодкаў прафесар Аляксандр Баршчэўскі пра хор з Гарадка сказаў: „Калі б Беларускае грамадска-культурнае таварыства мела карону, то гэты калектыў свяціў бы найлепшым брыльянтам". Неабходна дадаць, што на брыльянт гэты хор запрацаваў беспярапыннай напружанай працай. Песня — жыццёвы спадарожнік яго членаў, іх радасць і надзея.

*(працяг будзе)*
**Янка Целушэцкі**

# З гэтага гуку не было чаго браць у руку

Прачытаў я цікавы і праўдзівы артыкул на старонках „Нівы" (н-р 46, 13.11.94 г.) пад загалоўкам „Камунізм — будучыня свету?", падпісаны С.М. Адразу прыгадалася мне народная прымаўка — з гэтага гуку не было чаго браць у руку. Рыхтык ва ўсёй гэтай бальшавіцкай брахні пра будучыню свету, якую мы дзесяткі гадоў чулі або нам сілаю ўбівалі ў мазгаўніцы. Брахалі розныя аратары на кожным партыйным сходзе сваім таварышам і спрабуй толькі запярэчыць — заклююць сваімі дзюбамі.

Памятаю я гэты XXII з'езд КПСС. У маіх бацькоў быў радыёпрыёмнік — вялікая рэдкасць. Я наводзіў на Маскву і адтуль слухаў, як палітыкі, адзін перад адным, абяцалі залатыя горы і спрачаліся з трыбун наконт гэтай праграмы, якую прадставіў чытачам С.М. Многія, у тым і я, верылі ў яе. Усе мы лічыліся багацеямі, бо кожны меў у хаце „точку" і мог слухаць Варшаву, адкуль таксама бубнілі пра тую праграму. Мы жылі багата — кожны вясковец меў веласіпед, ката, каня, адну кароўку, некалькі авечак, свіней і пакрытыя страхой гаспадарскія будынкі. Вазілі ў ГС на фурманках абавязковыя пастаўкі — плацілі нам за гэта сімвалічную залатоўку, лічы, што і дарма ішло.

Сёння амаль у кожнага селяніна свой трактар, 4-5 кароваў, табун свіней (не ў кожнага, бо не кожнаму з імі шанцуе), а матацыклы адышлі ўжо ў нябыт, бо на іх месцы таксоўкі, гаспадарчыя прылады і прасторныя дамы.

Вярнуся яшчэ раз да XXII з'езда і таго, як жылося людзям у багатым СССР. Калгаснік жыў сапраўды багата, бо не меў аніякіх абавязкаў — усё было калгаснае. Апрача ката нічога ў яго не было. Прыемна было пачуць кацінае мяў-мяў — сімфонію камунізму. Рублі былі дарагімі, бо зарабляў гэты калгаснік 20 капеек у дзень, бохан калгаснік 20 капеек у дзень, бохан хлеба. Гарэлка амаль дарэмная, бо ўсе гналі самагонку. Чаго больш і трэба? Пі, весяліся, а пра заўтрашні дзень паклапоціцца партыя. З адным пунктам праграмы трэба абавязкова згадзіцца: „жыхарства вёскі не будзе вельмі розніцца ад гарадскога" — так было і ёсць па сённяшні дзень. У горадзе няма платоў і няма іх у калгаснай вёсцы. Людзей навучылі як быць эгаістамі, п'яніцамі, гультаямі, абманшчыкамі і злодзеямі... Бальшавікі знішчалі яшчэ кожны нацыяналізм, у выніку чаго, напрыклад, беларускі народ у 95% зрусіфікаваны. Для групы Хрушчова здавалася, што шлях у чысты камунізм ужо пракладзены, бо ў сібірскіх лагерах дабівала з сябе дух найлепшая эліта, а краінай кіравалі адны галышы. Здавалася, што ўсемагутнаму Хрушчову, які цалаваўся з усімі правадырамі васальных краін, не будзе канца. А тут, вось, сенсацыя, бо восенню 1964 года найлепшыя сябрукі скідаюць Мікітку з прастола, як сярлівага ката і на яго месца ставяць іншага лгуна і хабарніка — Леаніда Брэжнева. Барацьба за лепшае карыта прадаўжаецца ў камуністычнай Расеі і па сённяшні дзень, хаця камунізму быццам і няма. Але мы, сяляне, добра ведаем што пустазелле найгорай выкараніць.

Быў час, што савецкая прамысловасць у некаторых галінах перагнала заходнюю, але за які кошт гэта адбылося? За кошт жывой прыроды і экалогіі, што па сённяшні дзень адчуваюць савецкія людзі. У той жа час паўсюдна гладка пісалася, што прырода ў вялікай пашане і на першым месцы, што на яе ахову выдаткоўваюцца вялікія сродкі. Усё гэта ехала на адной мане, у якой, як сёння бачым, кароткія ногі. І таму артыкул „Камунізм — будучыня свету?" лічу ў 46-тым нумары найлепшым і найпраўдзіўшым. Яго аўтар праўдзіва і без крытыкі падаў людзям некаторыя пункты праграмы XXII з'езда, пытаючыся чым яны закончыліся. Я даў тут свой адказ.

**Мікалай Панфілюк**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астронс! Мой сон мяне вельмі напужаў. У мяне хварэе бацька, стары ўжо чалавек, можа гэта на яго смерць...

Сніцца, што я была ў шлюбнай сукенцы, белай, доўгай аж да зямлі. Вэлюм доўгі, да канца сукенкі, на яго краях чырвоныя ружачкі. Я перажываю, што вэлюм крыху закароткі, не цягнецца па зямлі.

І была мая мама-нябожчыца, я страшна сварылася з ёю. На падлозе быў нейкі пясок, фактычна не было падлогі, а толькі пясок. І я пабрудзіла край сукенкі. Менавіта за гэта мела прэтэнзіі да мамы. Але там быў такі балаган, ды вокны былі вельмі нізка, пры самай зямлі.

Я мела браць шлюб, ды не ведаю, з кім. Побач са мною сядзеў гвардзіст англійскай каралевы. Быў у чырвоным пінжаку і чорнай шапцы з футра мядзведзя. Ён гэтую шапку расчэсваў.

Я доўга хадзіла, здымала вэлюм, часала валасы (чамусьці доўгія, а ў сапраўднасці яны да пляча), зноў надзявала вэлюм.

Навокал было шмат людзей, быў мой брат, а бацькі чамусьці не было. Я ведаю, што павінна выйсці замуж. Ідзем па гэтым пяску, які мяне нервуе, ідзе цэлая світа.

Урэшце я бачу, што гэта ўжо не пясок, а мармур, а я іду на шлюб не са сваім жаніхом, а з іншым, з якім яны залажыліся. Той другі нарэшце адмовіўся ад сваіх правоў, і мы з нарачоным ідзем у касцёл. А там пустыя залы, нідзе нікога няма. А дзе даюць шлюб? Нехта сказаў, што трэба ісці па стрэлках.

І я не ведаю, ці мы туды дайшлі.

Аліцыя

Усё ж такі, Аліцыя, занадта пацешыць цябе не магу. На першы план твайго сну высоўваецца тое, што ты ішла на шлюб. Гэта ўжо абазначала б нейкую непрыемнасць, мо сварку. Але па дарозе ты на дадатак сустракаеш розныя перашкоды: то забрудзіла пяском сукенку, то пасварылася з маці, а то замест нарачонага на шлюб мае ісці той, што з ім залажыўся і выйграў... цябе. Маці, а пасля касцёл абазначаюць нейкі сум і клопат. Нават футра, якое расчэсваў на сваёй шапцы гвардзіст англійскай каралевы, сведчыць пра аднастайнае і сумнае жыццё.

Клопат, як заўсёды, можа вынікнуць ад прыбытку: ты расчэсвала доўгія валасы, якіх у сапраўднасці ты не маеш. Зрэшты, балаган сведчыць аб тым, што нешта ў тваім жыцці зменіцца.

АСТРОН




### Сустрэча

Сустрэліся мы і ўсё ажыло:
Першы палымяны позірк закаханы,
Першыя абдымкі, пацалунак першы,
Найлепшай роскашы першыя хвіліны.

Бурлівыя гады раздзялілі нас.
Нашы сэрцы астудзелі.
Нашы вочы адвярнуліся.
Толькі памяць тлела доўгія гады.

Кожны меў свой шлях —
Ішоў побач новага кахання.
Забылі мы пра сябе.
Гусцеў між намі туман часу.

Сустрэча вярнула нас назаўсёды.
Усё ажыло, разгарэлася.
Цяпер мы не раздзелімся,
Разам пачнем новае жыццё.

Аўрора

### Смех на ўсю Еўропу!

Калі так сённяшняя Польшча кідаецца з кутка ў куток, падбіраючы, каго, калі і на які пост паставіць, то мне старому адразу прыпамінаецца непрыстойны сказ на рускай мове: „Все шевелятся и неизвестно кто кого е...” А з другога боку, усе старэйшыя людзі памятаюць нямецкія сатырычныя і злавесныя лозунгі тыпу: „Каму-на, а каму-не”, якія так глыбока запаміталіся і польскаму народу, што той і па сённяшні дзень імі карыстаецца.

Найбольш іх прымяняюць у вярхах улады, хаця магло б здавацца, што сёння ў Польшчы на найвышэйшых крэслах сядзяць выключна маладыя людзі, якія і не чулі пра гэтыя нямецкія лозунгі. І замест слабець, іх водгукі з гадамі ўзмацняюцца.

Каб многа не разводзіцца над філасофіяй нашай сённяшняй рэчаіснасці, коратка запытаю: чаму малады паручнік не можа быць галоўным камендантам паліцыі, а капрал можа быць прэзідэнтам?

Васіль Петручук

## КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. Беларусь раней, 8. варта на судне, 9. разгадвае сны ў „Ніве”, 10. паэт-пясняр, 11. умацаванае жыллё феадала, 13. хімічны элемент н-р 22, 15. навука аб гуках, 16. жыллё цара, 20. перадавая частка групы, 22. даліна Нарвы, 23. дажджлівае надвор’е, 27. драўляная інкрустацыя, 29. пірат, 30. гарачыня, спякота, 31. мястэчка на Беласточчыне, 32 ветраны млын, 33. мясцовасць на Віцебшчыне, Беласточчыне, Браншчыне, 34. жаночае імя.

**Вертыкальна:** 1. жаночае імя, 2. частка верша, 4. расейскі фізік (1839—96), 5. член рады, 6. вучэнне аб паводзінах чалавека, 7. частка шыі, 12. жаночае імя, 14. культавы жывапіс, 16. галава Ватыканскай дзяржавы, 17. сібірская рака, 18. Іван меней афіцыйна, 19. гранічная рака між Польшчай і Нямеччынай, 21. дрэвы, паваленыя ўраганам, 24. грубая памылка, промах, 25. мера паверхні грунту, 26. від крыжаванкі, 27. часцінка палаючага рэчыва, 28. адзін з цэнтраў Вялікага княства Літоўскага.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 44 н-ра:** булава, сілуэт, астрог, пагода, парнік, Харбін, Арктур, браткі, банкір, нацыск, біцэпс, справа.

**Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч з Беластока.**

## Беластоцкая хроніка

**1862 год** — пабудова чыгункі з Беластока ў Варшаву.

**1885** — першы конны трамвай у горадзе.

**1889** — першы водаправод.

**1891** — першы тэлефон. На працягу года дзейнічала ўжо 360 тэлефонных апаратаў.

**1910** — першая электрастанцыя.

**1912** — першая газета на польскай мове — штотыднёвік „Gazeta Białostocka”.

**1945** — пачалі лётаць пасажырскія самалёты ў Варшаву; час палёту ў сталіцу — 50 мінут.

**1955** — 1 мая адкрылі радыёстанцыю.

**(яц)**

## Новы пераход у Літву

Завяршаецца пабудова новага перахода Будзіска — Кальварыя на граніцы паміж Польшчай і Літвой. Пераход, які ў будучыні мае стаць адным з элементаў міжнароднай трасы „Via Baltica”, будзе адным з найбольшых у Польшчы. Польскі бок ужо гатовы, а на літоўскім баку працы закончацца праз некалькі тыдняў. Невядома яшчэ толькі, які транспарт паедзе новым пераходам: літоўскі бок прадбачвае тут рух толькі аўтобусаў і грузавікоў; легкавыя машыны маюць надалей адпраўляцца цераз Агароднікі — Лаздзіяй. Канкрэтныя рашэнні будуць неўзабаве прынятыя прадстаўнікамі гранічных службаў Польшчы і Літвы.

**Андрэй Гаўрылюк**

### АБ’ЯВА

Маладая сям’я з Беларусі — Андрэй і Галіна Пархімовіч шукае працу па кантракту ў Польшчы.

Галіна — 23 гады, адукацыя вышэйшая эканамічная, вопыт працы — 5 гадоў у падаткавай інспекцыі.

Шукае працу: прадаўца, клерка, сакратаркі.

Андрэй — 26 гадоў, адукацыя сярэдняя спецыяльная. Працоўны стаж — 4 гады.

Шукае працу: служачага ў бары ці ў кафэ, прадаўца, іншую падобную працу.

Звяртацца па адрасу:
213829 Беларусь
г. Бабруйск,
вул. Ульянава д. 30, кв. 130
Пархімовіч Г. Н.
тэлефон (8-02251) 3-03-03.

На спартыўнай ніве

## СЛАВАЛЮБІВЫ „ГОЛЬ-ГАЗ”...

Закончыўся асенні сезон спартыўных мерапрыемстваў. Футбольная каманда „Голь-Газ” з Нараўкі выступала ў А-класе ў чатырнаццаці матчах, у тым ліку ў трох на Кубак Польшчы ваяводскай ступені.

У розыгрышах на Кубак Польшчы „Голь-Газ” выйграў з ЛЗС Пілікі 3:0, з ЛЗС Юхнавец 5:0 і з „Сокалам” Саколка 3:2. Нараўчанскія футбалісты забілі 29 голаў — найбольш Міраслаў Місюк (трынаццаць голаў), Андрэй Скепка (восем), ды Ян Янушкевіч і Тамаш Валкавыцкі (па чатыры). Перамаглі яны каманды: з Гайнаўкі вынікам 6:3, „Гетман” Тыкоцін 3:1, „Іскру” Нарва 3:1, „Гентыкус” Беласток 4:2 і „Чыгуначнік” Чаромха 3:2. Сыгралі адзін матч унічыю з ЛЗС Монькі.

Поспехі нараўчанскіх футбалістаў адкрываюць ім шлях да ўдзелу ў розыгрышах на Кубак Польшчы ў вясенне-летнім сезоне са шторазь сільнейшымі камандамі.

За прыгожыя змаганні на спартыўнай пляцоўцы спартсмены з каманды „Голь-Газ” атрымалі ва ўзнагароду альбомы ад Гміннага ўпраўлення з Нараўкі. Варта дадаць, што з фінансавай дапамогай камандзе прыйшлі: Гміннае ўпраўленне, Спулдзельчы банк і Гмінная спулдзельня ў Нараўцы, фірма „Голь-Газ”, Надлясніцтва Броўск і Керамічная фабрыка ў Старым Ляўкове, а таксама ўласнікі прыватных крамаў у Нараўцы: Юры Ярмоцік, Рыгор Ставіцкі і Міраслаў Сакоўскі.

Калі хто хоча дапамагчы Спартыўнаму клубу ЛЗС „Голь-Газ” у Нараўцы — могуць гэта быць прадпрыемствы, установы або г.зв. фізічныя асобы — дык грошы можна пералічваць на рахунак: Bank Spółdzielczy, Klub Sportowy LZS „Hol-Gaz” w Narewce nr 114—2711—5.

яц

## ЗВАРОТ

**Грамадскага камітэта пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы**

Грамадскі камітэт пабудовы МіАБК выказвае шчырую падзяку ўсім сваім членам за ўдзельніцтва ў ажыццяўленні ідэі Беларускага музея і за фінансавую падтрымку. Пры нагодзе хочам прыпомніць, што статут патрабуе ад кожнага члена рэгулярна аплачваць членскія ўзносы, а невыконванне гэтага статутнага абавязку можа прывесці да выключэння з радоў членаў ГКПМіАБК. Кіраўніцтва Камітэта не хоча дапусціць да такой сітуацыі, а наадварот, імкнецца пашыраць свае шарэнгі і таму заклікае членаў ліквідаваць пратэрмінаваныя ўзносы, каб такім чынам аднавіць членства. Сёлета гадавы ўзнос складае толькі 60 тысяч злотых.

Узносы і ахвяраванні (у польскай і замежных валютах) просім дасылаць на рахунак: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej w Hajnówce, konto: PKO BP, Oddział w Hajnówce, nr 5627-5454-132.

**Грамадскі камітэт пабудовы МіАПК у Гайнаўцы**





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцыляріі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1995 r. upływa 20 lutego 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Вінцук Асьцюк*

**ШТО МНЕ МУДРАСЦЬ!**

Жонка мужу: „Зробіш мудра,
Як падорыш ты мне футра!"
У адказ гаворыць ён:
„Мне б да мудрасці мільён!"

* * *

Кажуць, што пад самы Новы год
Мары добрыя заўжды
збываюцца.
А ў мяне, браткі, наадварот —
Дома ўсе са мной змагаюцца.
Жонка піва выпіць не дае,
Цешча моўчкі праганяе з хаты,
Нават кот Кузьма не прызнае...
І чаму ніхто мне тут не рады?

І, як мыш, хаваюся ў закутак,
Дома я не быў пятнаццаць сутак.

## СЕНТЭНЦЫЇ

У глыбіні пустыні
безвыходныя думкі.

* * *

Субардынацыя — індывідуальнасць
у клешчах.

* * *

Адно сонца, а толькі ценяў.

* * *

На люстэрку толькі твайго твару,
колькі сонца на месяцы.

* * *

У пустой галаве гуляе вецер.

**Барыс Руско**






*Багацці беларускай дзяржавы.* **Мал. Валерыя Верацейкі ("Звязда")**

*Сцяпан Абух*

## З запісаў нацыяналіста

### 10. Зіна

Якіхсьці гадоў пяць таму у Зоне з'явілася адмысловая чацвёрка, якая заявіла, што Зона павінна звацца Зінай, а Замбара — Зімбара. Былі гэта: Табто Азызел, Мыхайла Залышайла і ягоная любагорская жонка ды Аджэ Казёл.

Табто Азызел быў чарнявы, смаглы на скуры, крышку азызлы на від і найбольш нагадваў тып карэннага зінаўца. Заўжды хадзіў набздычаны, а харчаваўся адным салам з цыбуляй.

— Нэ чыпай, бо зарыжу, — казаў ён, калі хто знаходзіўся поблізу яго ў час яды.

Мыхайла Залышайла быў курдуплеваты з постаці. У размове рабіў уражанне не надта кемлівага, увесь час дурнавата ўсміхаўся, нібы хацеў запытаца „Дасі мне ў морду, ці не?".

Аджэ Казёл быў найбольш інтэлігентны з усіх іх і меў свой стыль. Хадзіў у расхрыстанай, выпушчанай з нагавіц, кашулі, да губы заўсёдна меў прыклеены акурак, а калі да каго звяртаўся, падымаў руку і, не адклейваючы акурка, казаў: „Добрэ е".

Хаця любагорская ўлада не надта любіла Зону, то зінаўцаў моцна падтрымлівала. Доказам гэтага з'яўляецца хаця б і той факт, што зінаўці змаглі ўчатырох згуртавацца ў арганізацыю — любагорскія законы патрабуюць у такім выпадку 15 чалавек. Зінаўці назвалі сваю арганізацыю „Бздыння з пробудыння", а яе прэсавы орган — „Бздэлынка". Як і карэнныя зонаўцы, зінаўці карысталіся беларускай мовай, хоць крышку папсракручванай. Але ў адрозненне ад зонаўцаў друкавалі свае лісткі (напрыклад „Бздэлынку") лацінічным шрыфтам.

У першым нумары „Бздэлынкі" знаходзім праграмны матэрыял „Хто ты е і кім ты маеш буты". Рэдактарам гэтага агіднага лістка быў Мыхайла Залышайла — чалавек пажадлівы на кожны грош і таму быў ён таксама яго аўтарам, карэктарам, і лічы, адзіным чытачом. Надрукавала лісток фірма любагорскай жонкі Мыхайлы Залышайлы.

„Мы, — чытаем у праграмным матэрыяле, — злучыння ўсіх зінаўціў „Бздыння з пробудыння", кажэмо вам, шчо Зона ўжэ ў сто сорок трэтым століттю до Хрыста называлася Зінай. Мы покажэмо вам праўдну йійі традыцію та історыю. Тылькі слухайтэ нас".

Зінаўці дзеілі з Любагорска, з вяшчання „Любоў". Быў гэта іхні ўтульны прытулак. Ёсць сёння нават меркаванне, што ўся іхняя рэвалюцыя („зінаўське бздыння з пробудыння") рабілася дзеля таго, каб Табто Азызел і Аджэ Казёл маглі ўладкавацца на працу ў „Любові". Як яно там ні было, але дзейнасць сваю зінаўці павялі небеспасьпяхова.

З нагоды аднаго зонаўскага святкавання Аджэ Казёл накінуўся з кулакамі на вядомага зонаўскага паэта, Квіка Фінляндца, і прачучыў яго.

— Чого ты сюды прыліз, я тобі зараз усю чупрыну повырываю!

Табто Азызел, яшчэ ў пару, калі зваўся зонаўцам, напісаў славуты данос у Замбара (Зімбара), дзе геапалітычную сітуацыю Зоны ахарактарызаваў так: „Зонаўське сэрэдовішчэ е подылене і крычыт, шчо мы йім розбураем цэ, шчо воны будывалы стылькі рокіў. Шчо воны збудувалы?"

Мыхайла Залышайла заходзіў часамі на зонаўскія зборышчы, сядаў у заднім радзе і... сваім звычаем, дурнавата ўсміхаўся. Дадуць тут мне па мордзе, ці не? Затым садзіўся на каня і ад'язджаў да свае любагорскай жонкі, якая гэтым часам таўкла смятану ў маслабойцы. Усе зінаўці, як прынцып, не прызнавалі сучасных срокаў транспарту і падарожнічалі вярхом на кані...

# З нашага жыцця

— Дыхайце носам, а не ротам, — гаворыць зубны лекар пацыенту.

— Калі я не навучыўся дыхаць носам за пяцьдзесят гадоў, то вы не навучыце мяне за пяць мінут, — адказаў пасівелы мужчына.

* * *

У прыёмнай людзей многа, а крэслаў мала. Сярэдніх гадоў жанчына ўстае і просіць сесці пажылую.

— А што, я старая, каб сядзець?! — абураецца старэча.

* * *

На імянінах размаўляюць госці:

— Хто вы па прафесіі? — пытае чарнявы бялявага.

— Фатограф.

— Так! Чаму ж вы не прынеслі фотаапарата? Зрабілі б здымкі.

— А вы хто па прафесіі?

— Столяр.

— Чаму ж вы тады не прынеслі з сабою малатка і цвікоў?

* * *

Добра, што пасля Новага года зменяцца грошы, — радуецца пенсіянерка Кася. — Не трэба будзе тых многіх нулёў.

— Што ты! Якое там добра! Мы з мільянераў станем простымі жабракамі. Ты ж уяві сабе: як атрымоўваеш два мільёны, то атрымаеш усяго дзвесце злотых. Гэта ж бяда!

* * *

— Учора краму „Малы маркет" абакралі.

— Як гэта так? То ж знаходзіцца яна насупраць пастарунка паліцыі.

— Не ведаеш? Каля ліхтара заўсёды найцямней.

* * *

Яцэк і Мірэк пайшлі ў грыбы. Заблудзілі. Хадзілі, хадзілі ажно змучыліся, а дарогі так і не знайшлі. Селі на пнях і думаюць, як выбрацца з лесу.

Мірэк прыдумаў, што каб зноў не змучыцца, будуць уперамешку нясці сябе на плечах. Той, хто сядзіць на плечах праспявае дзве песні а пасля будзе змена: так будзе весялей і хутчэй знайсці дарогу.

Першым Яцэк нёс Мірка; той праспяваў дзве песні і змяніліся. Потым Мірэк нёс Яцка. Яцэк рашыў схітрыць і спявае: „У адным горадзе хлопец жыў, моцна кахлівы быў, дзяўчыны за ім шалелі, да яго ўсё бегалі, Манька пайшла, Мірка прыйшла, Мірка пайшла, Франка прыйшла...". Усё дзяўчаты ішлі ды ішлі. Мірэк змучыўся і кажа:

— Калі яны ўсе ўрэшце пяройдуць, дык мне рукі і ногі памлеюць.

**Аўрора**




Дарагое Сэрцайка! Мне 41 год. Ужо адна мая сяброўка стала бабулькай, а мне яшчэ выйсці замуж не давялося. Не тое, каб кавалераў не было, але ўсё неяк не складалася: калі я закахалася, дык ён быў замалады і са старэйшай быў шчаслівы нядоўга; калі мяне нехта пакахаў, дык быў жанаты, або — у лепшым выпадку — разведзены.

Вырашыла я, што няма чаго час траціць. Няма мужа — трэба мець прынамсі дзіця. І вось хаджу цяпер цяжарная і, як збаўлення, чакаю дзіцяці. Мо яно ўнясе радасць у маё жыццё. Ужо яно варушыцца, бо я ў шостым месяцы цяжарнасці. І тады ўсё ўва мне замірае, а на сэрцы робіцца цёпла-цёпла.

Ці ведаю бацьку дзіцяці? — пытаюць некаторыя. Ну, чаму ж не? Мне ж ужо не семнаццаць. Аднак, мушу табе прызнацца, што не ідэальны ён кандыдат на мужа. Зрэшты, меў ужо і жонку, і дзяцей. У жыцці ён быў бы мне не надта дапаможны, бо, хаця мае цікавую прафесію, дык мусіць даваць сваім дзецям, а пры гэтым і выпіць любіць. Можна і так быць у добрых адносінах, а навошта мне выходзіць замуж, калі жывем і працуем у розных гарадах, ды працу ніводзін з нас не хоча змяніць.

Бліжэйшыя сяброўкі не дзівяцца, што я вырашыла мець дзіця без мужа. Яны даўно раілі мне рашыцца на гэты крок. Будзеш мець у жыцці некага блізкага, адданага, казалі. Але многія знаёмыя не могуць ніяк супакоіцца: і навошта мне гэты клопат? Ды і ці будзе шчаслівае маё дзіця? Дзіцяці ж заўсёды патрэбны бацька. А ці падумалі яны пра тыя мільёны самотных маці ў свеце, якія рашаюцца на такі крок?.. Гэта ж не загана — мець прынамсі дзіця, калі не выйшла з мужам. А як ты мяркуеш, Сэрцайка?

**Ева**

Ева! Напэўна не загана, тым больш, што гэта абсалютна твая прыватная справа. Ты рашылася на гэты крок і толькі ты будзеш несці адказнасць за свае ўчынкі.

На гэту тэму існуюць дзве школы. Адны лічаць, што даць жыццё другому чалавеку — гэта высакародны чын, а паколькі ў жыцці гэта дзіця зможа лічыць толькі на маці, дык лічаць гэта актам вялікай адвагі. Адзінокай маці сумна — дык будзе да каго прытуліцца, будзе для каго жыць, дзіця дасць сэнс усім яе дзеянням.

Другая школа лічыць, што дзіця — гэта не лялька і не коцік, з якімі можна толькі пагуляць. Каб выхаваўся парадачны чалавек, дзіця павінна мець і бацьку. Толькі поўная і адданая дзецям сям'я гарантуе ім здаровае выхаванне. Адзінокія маці свядома кідаюць сваё будучае дзіця на хвалі адзіноцтва і комплексаў. Лепш яго не выклікаць на белы свет, калі не можаш гарантаваць яму шчасця.

Цяпер табе, вядома, здаецца, што тваё жыццё, калі толькі народзіцца дзіця, будзе высцелена ружамі. Толькі пазней даведаешся, колькі будзе слёз і няраспаных начэй. Дзіця — гэта не толькі радасць, але і вялікі абавязак.

Але і іншая справа, што жыццё тваё стане больш асэнсаваным. Станеш яго больш шанаваць, бо яно будзе патрэбна твайму дзіцяці. Будзеш як бы паўтараць сваё жыццё, гледзячы на сваё дзіця. Будзеш ласкаць яго, кахаць велізарным матчыным каханнем. Не будзеш адна!

Памыляешся аднак, калі лічыш, што заўсёды дзіця адплачвае сваёй маці сэрцам. Мусіш на ўсякі выпадак быць падрыхтаванай да ўсяго. Бывае і так, што той, у каго маці ўлажыла ўсё найлепшае, што мела, пасля скажа: „Ты, старая к..., я ж на свет не прасіўся".

Трэба вельмі ўмела выхоўваць дзіця без бацькі. Быць ласкавай, але не залішне. Патрабавальнай — як да кожнага дзіцяці, а не як да калекі — бо ў яго няма бацькі.

**Сэрцайка**